© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

НАША НІВА

*Беларуская газэта* *Вільня №16. 1993*

**СВАЕ ПРАБЛЕМЫ** на Беларусі (яцьвяскі сэпаратызм, ацэнка дзейнасьці Арміі Краёвай...) пакуль што руляць менш, чым праблемы чужыя й агульныя. Але ад гэтага яны не зьнікаюць.

**ХАРАКТАРЫСТЫКА НАРОДУ Ў ТЫПОВЫХ РЫСАХ:** «Кожны шатляндзец скупы, кожны паляк легкадумны»... У спажывецкай масавай культуры гэтыя рысы выяўляюцца ў адметным сьмеху, сіле, каханьні, а таксама — гастранамічных прыхільнасьцях. Агульнавядома, напрыклад, што пры сухім віне тыповы беларус звычайна аддае перавагу піву...

**БАРЫС ВІЯН** — фаварыт французскае моладзі й рэдкі госьць на старонках беларускага друку — з апавяданьнем «Сюрпрыз-вечарынка ў Леабіля», што ўвайшло ў зборнік «Ваўкалака».

# ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА



*Здымак Алены Адамчык*

* * *

Мы крочым праз вострыя брамы,
якія ўтварае пара дарагая,
мая залатая пара.
Але нас ня золата вабіць,
што ўрэшце абернецца
бруднай іржою і гноем,
а готыка голых таполяў,
што рукі скрыжоўваюць недзе
ля самага шэрага, шэрага,
шэрага неба.

Мы рушым праз новыя
вострыя брамы старыя,
як некалі, поруч,
і вера вяртаецца нам,
і нешта нам кажа,
што мы не адзіныя ў сьвеце.

Тацяна Сапач

# ГІСТОРЫЯ КАТА

**Кароткая аповесьць пра мужнасьць**

Адам Глёбус



Кат, кіт, кот, кут... Правільна. Пра іх і раскажу табе. Толькі я гаварыў кіт і думаў зусім не пра акіянічную жывародную істоту, а пра замазку, якой замацоўваюць шкло ўваконных рамах. У сутарэньнях дзевяціпавярховага дома, дзе я жыў, калі вучыўся ў школе й мастацкай вучэльні, былі зусім маленькія, на адну шыбу, акенцы. Кіт перасох і вылушчыўся, шкло трымалася цьвічкамі, і яго лёгка можна было дастаць, каб стрэліць з рагаткі драцяным прабоем у дзявочую лытку. Ахвяра хапалася за апечаную болем нагу й пазірала ўгору — на гаўбцы, яна ж не здагадвалася, што прабой пускаўся з сутарэньняў, праз маленечкае акенца, пад якім, душачыся сьмехам, хаваўся я. Так можна было б пачаць аповесьць пра першае каханьне, пра першыя спробы падлетка зьвярнуць на сябе ўвагу супрацьлеглага полу, пра ўсеабдымныя адносіны мужчыны й жанчыны. Але я ўжо распавёў табе пра сваё першае каханьне. А цяпер раскажу пра мужнасьць, пра забойства. Менавіта ў прапахлых гнілой бульбаю сутарэньнях я забіваў ката. Але думка пра забойства, пра забіраньне жыцьця адной істотаю ў другога жывога стварэньня прыйшла мне ў іншым месцы — сонечным і залатым. Кастрычніцкім ранкам я кіраваўся ў школу, каб у сваёй шостай клясе разам з усімі чакаць на доўгіх уроках кароткіх перапынкаў. Я абмінуў сятчасты плот дзіцячага садка і ўбачыў на чырвоным маладым клёне, што рос каля белай сьцяны трансфарматарнай будкі, ката. Чорны, бліскучы, з доўгім пухкім хвастом кот вісеў на вяроўцы, перакінутай праз кляновы сук і заматанай на камлі. Выпручанае, узьдзервянелае цела ціха пагойдвалася пад шалёсткімі вогненнымі шатамі. З ашчэранага, белазубага рота тырчаў высалаплены пурпуровы язычок. Я доўга ня мог адвесьці вачэй ад чароўнага відовішча блізкай сьмерці. Думкі зблыталіся,

*Працяг на старонцы 4*

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# НЕЗАВЕРШАНАЕ ТРЫВАНЬНЕ

Ад Рэдакцыі

* * *

... Мы дамовіліся, што літаратура папросту перапампоўвае свой час; а паколькі цяперашні час незавершаны, негатовы, нясьпелы, дык і літаратурныя творы выходзяць гэткія самыя.

Яшчэ адзін варыянт вытлумачэньня — наш час ня мае кантэксту. За Брэжневам час аж расьціналі ад кантэкстаў — усе толькі й рабілі, што рабілі намёкі. А цяпер настаў надзвычай сапраўдны час. У расейскай мове гэта адным словам — настоящее время. Яшчэ гадоў дзесяць таму цяперашні час ня быў сапраўдны. Сапраўдныя былі мінулы й будучы. А цяпер усё наадварот. І ў Расеі два значэньні супалі. Там раз-пораз бліскаюць маланкі, грымяць перуны, там пішацца гісторыя. На Беларусі — нібыта хмарыцца, нібыта зьбіраецца на дождж, нібыта зьбіраецца на гісторыю. Але запісаць у падручнік з пэўнасьцю яшчэ нічога нельга. Няма кантэксту, у якім набывалі б значэньне пастановы ВС і акцыі апазыцыі. Гэта сапраўды надзвычай цяперашні час. Усё, што ён нараджае — як бы аднаразовае. Заўтра яно ўжо не прыдасца. Аднаразовая лексыка, літаратура, філязофія. Вось калі ўзьнікла спрэчка пра «зараз» і «цяпер». «Зараз» — учарашняе слова, «цяпер» — сёньняшняе, яно адваёўвае сабе месца, зь якога яго ўчора выштурхнулі моўныя пурытаны.

Са зьнікненьнем кантэксту зьніклі й такія зьявы, як апавяданьне, аповесьць, раман. Запанаваў тэкст. Ягоны крытэрый — аб'ём. Тэкст імкнецца да ўнівэрсальнасьці: з газэтнае інфармацыі вызірае раман, а з раману — эксклюзыў.

* * *

Засяроджаная на беларушчыне «Наша Ніва» ўсё больш друкуе перакладаў, падарожных нататак, артыкулаў пра штосьць замежнае, гутарак зь небеларусамі... Нібыта яшчэ трохі, і газэта ператворыцца ў часопіс «Иностранная литература». Але ўсё ня так. Бо ня можа часопіс замежнае літаратуры выходзіць за мяжой, быць замежным. Усё якраз наадварот. «НН» ня ёсьць замежным выданьнем, але й пераклады з польскай, літоўскай, ангельскай, гішпанскай і г.д. моваў ня ёсьць у «НН» замежным матэрыялам. Робячы беларускую газэту ў Вільні, мы пазбаўленыя самое мяжы. Падзел на сваё й чужое, калі гутарка ідзе пра высокую культуру, немагчымы. По, Борхес, Шульц, Віян, Мілаш, Венцлава — для нас ня менш беларускія аўтары, чым Глебус, Арлоў ці Ніцка. Бо для нас гэта адна мова.

Калі ў Рэдакцыі стваралася аддзел літаратурнага перакладу — гэта выклікала спрэчкі. Сутнасна праца перакладчыка ў «НН» нічым не адрозьніваецца ад працы літаратурнага рэдактара. Магчыма, гэта прыхаваная ўласьцівасьць самое беларушчыны, не такой прафэсійна разьвітай, як, скажам, расейшчына, але й больш адкрытай для сьвету.

* * *

Будучы нарматыўны правапіс беларускай мовы мусіць зацьвердзіць камісія зь 10 чалавек. Усе яны — вядомыя людзі старэйшага пакаленьня, усё сваё сьвядомае жыцьцё карысталіся існуючым «рэпрэсаваным» правапісам і не выказвалі ніякага незадавальненьня. Гэта значыць, што новы нарматыў будзе прадыктаваны не аб'ектыўнымі вымогамі грамадзтва й не суб'ектыўнымі вымогамі самое мовы — яе імкненьнем да гармоніі, а толькі здольнасьцю ці няздольнасьцю гэтых дзесяці чалавек зьмяняць свой пункт гледжаньня. Сытуацыя няёмкая тым, што ня гэтыя людзі былі ініцыятарамі зьменаў. Яны хутчэй былі супраць. Г.зн., што цяпер яны будуць устаўляць мяккія знакі, толкам не разумеючы, навошта яны гэта робяць. Ці гэтага чакаюць тыя, хто ўсьведамляе неабходнасьць мяккіх знакаў? А галоўнае — ці трэба гэта мове? Мусіць, найперш ёй патрэбнае разуменьне яе ўнутранае лёгікі, прынцыпаў яе гармоніі. Па вялікім рахунку гутарка ідзе зусім не пра мяккія знакі й падобнае, а — пра склад камісіі й выніковы дакумэнт. Думаю, калі б нейкая «кааліцыйная» камісія — з роўным удзелам прадстаўнікоў усіх асноўных пунктаў гледжаньня, прыняла шырока аргумантаваную, пагодженую, усебаковую праграму, дзе высновай было б «Нічога зьмяняць ня трэба!» (калі такое магчыма) — дык такую праграму прынялі б усе, у тым ліку й сама мова.



# ПРА ІДЭАЛЫ

Антон Сіюль

**Прыдуманы ў 1933 годзе ў Кліўлэндзе (ЗША) падлеткам Джэры Сігелам ды ўвасоблены на паперы ягоным прыяцелем, мастаком-гумарыстам Джо Шустарам Супэрмэн прадвызначыў «новую амэрыканскую міталёгію». У 1938-м ён стаў героем кінасэрыялу Рычарда Донэра паводле сцэнару Марыо П'юза. Гэта быў «Супэрмэн-І». Герой нарадзіўся на крышталёвай плянэце Крыптан, якая павінна была загінуць, і бедныя бацькі, прадчуваючы гэта, адправілі сына на Зямлю, у Амэрыку, дзе ён і выгадаваўся на супэрмэна. Ён рукою спыняў цягнікі, падымаў гелікоптары, злучаў масты, перасоўваў горы... сьцьвярджаў перавагу амэрыканскіх каштоўнасьцяў.**

Пасьля былі «Супэрмэн-ІІ», «... ІІІ», «... IV» і г.д. Супэрмэну процістаяў Лекс Лютар, які прагнуў сусьветнага валадарства й стварыў Атамнага чалавека.

Напрыканцы 80-х герой дзіцячых коміксаў ступіў у дарослы сьвет, ускляў на сябе праблемы глябальнага супрацьстаяньня, будучы на баку Амэрыкі.

У сусьветны двубой Дабра й Зла, дзе пазытыўнаму герою супрацьстаяць героі дэпэрсаніфікаваныя, якія выконваюць волю плянэтарнага Зла, былі ўплішчаныя дзясяткі кіна- й тэлегерояў. «Гатычныя» гратэск супэрмэнаў 30-60 гадоў паволі зьмяніўся гратэскам гіпэррэалістычным. Героя пераапранулі, загрымíравалі пад чалавека, пад «007». Джэймс Бонд стаў зьлепкам паплеткавых мрояў. Звышсэксуальнасьць, дэгустатарскі снабізм, здольнасьць забіваць ворагаў натоўпамі — патрапялі пацешыць натуральныя пласты падсьвядамасьці. Дый «Імпэрыя зла» мела ўжо свае геаграфічныя каардынаты. Героі-супэрмэны (да Рэмба ўлучна), баронячы амэрыканскія каштоўнасьці ва ўсім сьвеце, самі сталі іх неадʼемнаю часткай. Іх маштаб, як і маштаб іх подзьвігаў быў сувымерны толькі для Амэрыкі (чаму супэрмэн не нарадзіўся ў Эўропе). Амэрыканская ўпэўненасьць у вартасьцях свае цывілізацыі рабіла супэрмэнаў непераможнымі, бо яны ведалі, што бароняць.

**Амэрыканскія супэрмэны абыйшлі ўсю плянэту, з тым ці іншым посьпехам папаўняючы касы й нараджаючы пытаньні: ці не дэфармуе гэты націск іншыя, свае тыпы цывілізацыі? І чаго чакаць ад яго нам?**

Яшчэ нядаўна многія гісторыкі культуры адмаўлялі Старажытнаму Рыму ва ўласнай цывілізацыі (О.Шпэнглер, А.Тойнбі ды іншыя). Рымская культура, паводле іхняга меркаваньня, была толькі калькаю грэцкай, альбо часткаю агульнаантычнай. Але сёньня мы ведаем, што рымляне выкарысталі грэцкі ўзор для сваіх мэтаў, падклаўшы пад яго іншую сыстэму вартасьцяў, у цэнтры якое быў богаабраны Рым. Перамена акцэнтаў была тым больш радыкальная, што сам занятак творчасьцю стаў лічыцца «рабскім». А далей пайшла мясцовая спэцыфіка, іншыя тэхналёгіі, іншы маштаб.

**Ці ёсьць сэнс у абмежаваньнях магутнага культурнага ўплыву?**

Генры Мілер ва ўводзінах да кнігі «Эратычнае мастацтва майстроў» піша: «... Багаты калекцыянэр, крытык, сьвятар, цэнзар могуць спакойна глядзець на іх [эратычныя творы], не баючыся за сваю маральную ўстойлівасьць. Але ня просты чалавек. *L'homme moyen* заўсёды лічыўся патэнцыяльным сэксуальным маньякам, і яго варта было абмяжоўваць агароджай забабонаў». Пры ўсёй спрэчнасьці далейшых высноваў Мілера, ён мае рацыю ў тым, што не само па сабе мастацтва вінаватае ў чалавечых заганах.

**Ці зьменіцца што-небудзь, калі мы разам зь іншымі атрыбутамі заходняй цывілізацыі «падхопім» і амэрыканскую міталёгію пра звышлюдзей? Што можа зьмяніцца ў беларускім сьветапоглядзе з заменаю саратаўскіх лыжкароў на экранах тэлевізараў на Супэрмэнаў? Беларускасьці, прынамсі, нічога не пагражае, бо яе ў «mass media» як не было, так і няма дагэтуль. Што тады можа разбурыць заходняя масскультура? Чакаць ад гэтага патоку амэрыканізацыі можна з той жа ўпэўненасьцю, як і мэксыканізацыі ад «мыльных» тэлесэрыялаў, дзякуючы якім ці кінецца хто вывучаць гішпанскую мову?**

**Праблема ў іншым. Каб нешта бараніць, трэба ведаць, што. Трэба ўявіць беларускія ідэалы ва ўласнай сыстэме каштоўнасьцяў.**

**Як і пра што мараць гэтыя людзі? Пра што, пра якую Беларусь мараць адраджэнцы-палітыкі? Здаецца, гэтыя мары калі й ёсьць, дык абернутыя ў мінуўшчыну, што наўрад ці супадае з памкненьнямі большасьці людзей. А калі мары няма, калі яна ніяк не акрэсьленая, тады аднадзённая тактычная руціна зьядае сам сэнс адраджэньня, самую ідэю Беларусі.**

**Калі мы гаворым пра ідэал, мы павінны яго вызначыць, запраектаваць, акрэсьліць, увесьці ў паток масавай спажывецкай культуры.**

**Каб мець сваіх герояў, трэба ведаць тыя канстанты ідэалу, за якія можна было б стаяць да апошняга, бо ён свой. Асновамі нацыянальных ідэалаў у першую чаргу ёсьць ідэалы антрапалягічныя. Сьмех, сіла, сэкс ды гастранамічныя прыхільнасьці фармуюць нацыянальны стэрэатып, гледзячы на які мы гаворым: «эстонскі» ці «ангельскі» гумар, «французскі» ці «амэрыканскі» сэкссымбаль, урэшце — італійская піца ды бразыльская кава. На Беларусі піва, напрыклад, шануюць больш за сухое віно. І гэта ўжо канстанта.**

Тапаграфіі

# Якая ўласьць — такая й масьць

Сяржук Вітушка

Ёсьць мясьціны, куды варта вяртацца. У Адамчукі, вёску пад Вільняй, пра якую ўжо пісаў у «НН», я прыехаў яшчэ раз. Зноў мяне цікавілі ўспаміны пра Антона Янкоўскага, і гэтым разам мне пашанцавала больш — я сустрэўся з жонкай дзядзькі Антона.

Суседзі згадвалі пра яго ня надта паважна — маўляў, тады, за польскім часам, усё агітаваў за Беларусь, а калі з савецкай Беларусі прыйшлі-такі «вызваліцелі», то атрымалі адамчукоўскія жыхары калгас і высылку ў Сыбір. Пані Настася Янкоўская пачала мужа бараніць: «От, цяпер зрабіўшы яго камуністым, а ён проста справядлівы быў, людзям заўсёды памагаў. Пры Польшчы яго войтам былі выбраўшы, а прыйшлі саветы, сталі калгасы зьбіраць, ну, і мой там быў. Ведама, якая ўласьць — такая й масьць».

Для адамчуцкіх старажылаў па-ранейшаму актуальныя палітычныя дыскусіі часоў іхняе маладосьці. Але я абмінаю гэтыя спрэчкі й цікаўлюся этнаграфіяй.

Бабця Наста паказвае мне сшыткі й кніжкі, што засталіся па мужу, доўгі сьпіс рэчаў, што перадаў Антон Янкоўскі ў вясковы музэй, тэчку з фальклёрнымі запісамі. Многія зь іх апублікаваныя ў зборніках «БНТ», але некаторыя, я ўпэўнены, яшчэ не друкаваліся.

Напрыклад, сапраўдны помнік народнае творчасьці, які, на маю думку, начыста абвяргае сьцьверджаньне, быццам беларусам не ўласьцівыя незалежніцкія ідэі: *«А я ў сваёй хатцы магу і ўсрацца»*. Другое мудраслоўе сьведчыць пра гаротны гістарычны лёс беларуса і пра тое, як патрапляў ён выжываць пры розных акупацыйных рэжымах: *«Воўк, якому не было чым сраць, пайшоў лыка драць»*...

Антон Янкоўскі яшчэ юнаком пачаў занатоўваць фальклёр родных ваколіц і за сваё доўгае жыцьцё сабраў безьліч



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010





# ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА

Алесь Кебік

Дзіўныя адносіны да клясыкі. Мэтафара *людзьмі звацца* разглядаецца як рэальная задача, праклямуецца або аспрэчваецца (маўляў, мы ж і так людзі). А заклік *Занімай, Беларусь... свой пачэсны пасад між народамі!* успрымаецца як мэтафара, хоць тут якраз усё рэальнае, і ніякага пасаду між народамі Беларусь не займае. Мэтафары *нацыянальнае адраджэньне, беларускі шлях* трапляюць у партыйныя праграмы й неяк «ажыцьцяўляюцца», што наводзіць на думку пра фундамэнтальную падмену рэальнасьці мэтафорыкай і наадварот. Адпаведныя й вынікі. Паміж глябальнымі адраджэнскімі грымотамі на сходах і ў друку і якой-небудзь раяноўскай бюракратыяй, у якой кволыя патугі беларусізацыі гразнуць, як у балоце, разьвярзаецца прорва неадольнае глыбіні. Клясыка патрабуе іншага, адэкватнага прачытаньня.

У рэальнасьці *людзьмі звацца, нацыянальнае адраджэньне* й *беларускі шлях* могуць разглядацца як мэтафары МЕСЦА. Краіна Беларусь ня толькі самавызначаецца, але й прыходзіць на вызначанае ёй ва ўжо складзенай эўрапейскай інтэграцыі месца. Пяць ці дзесяць краінаў выконваюць пэўную функцыю, і нам толькі застаецца ўстаць у працяг. Так яно ў эканоміцы, у палітыцы, у грамадзкай сьведамасьці. Для Беларусі, дзе «вярхі», адказныя за эканоміку й палітыку яшчэ не сфармаваліся, найбольш прыдатнаю сфэрай выглядае грамадзкая думка. Трэба толькі пагадзіць у ёй досьвед Польшчы, Нямеччыны, Францыі з жаданьнем не капіяваць іх і адпавядаць сабе, уласнай спэцыфіцы.

А спэцыфіка ў тым, што мы як старая нацыя за ўсе мінулыя часы патэнцыяльна праходзілі тыя сьведамасныя прыстанкі, якія яны пераадольвалі ў закалотах. Вынікі іхняга й нашага шляху істотныя ў адзінай мэтафізычнай прасторы. Яны змагаліся й сьцьвердзілі прыярытэт правоў чалавека, грамадзянскай супольнасьці, адкрытага грамадства, — тое, на што без фармулёвак пагаджаецца наша звычаёвая сьведамасьць. Спэцыфіка Беларусі ў тым, што нам ня трэба ствараць сабе праблемаў нацыянальнага й чалавечага станаўленьня, паўтараючы зады Эўропы. Нам ня трэба ваяваць на межах, ваяваць за меншасьць, інсьпіраваць у сябе хрэстаматыйныя канфлікты. Усе нашыя цяжкасьці зьвязаныя ня столькі з самастанаўленьнем, колькі з вызваленьнем ад чужых, накінутых стэрэатыпаў, найперш — ад чужой імпэрскай гардыні.

Тая ж «рускамоўнасьць» бальшыні насельніцтва — гэта ў рэальнасьці савецкамоўнасьць, элемэнт ідэалёгіі, якая адыходзіць у нябыт. Каб беларускі народ працягваў быць рускамоўным і заўтра — трэба ствараць цэлую сыстэму каардынатаў, дзе восі — сапраўдная расейская культура й мова. Сучасную «моўнасьць» у кожным разе давядзецца перастаўляць на іншыя рэйкі. На рэйкі сапраўднае расейскае мовы? У незалежнай Беларусі гэтага рабіць няма каму й няма патрэбы. Таму пры ўмове незалежнасьці праз пакаленьне ці два гэты народ непазьбежна загаворыць па-свойму.

Наша спэцыфіка — у нашай «адсталасьці», у неразьвітасьці тых праблемаў, зь якімі больш разьвітыя краіны змагаюцца й сёньня. Адмаўленьне Беларусі ад ядзернай зброі можа разглядацца, як паслушэнства калёніі, а можа — як сьведамы акт суб'екта міжнароднага жыцьця. У першым выпадку Беларусь — нішто, у другім — краіна заўтрашняга сусьветнага стандарту. Уся справа ў інтэрпрэтацыі. Другі выпадак пры пэўнай самарэкляме робіць краіну папулярнай у сьвеце й забясьпечвае ёй прыток капіталаў. І гэта толькі адзін прыклад.

Другі прыклад — зь міжнацыянальнымі адносінамі. Можна глядзець на ўвесь народ як на аморфную аднародную масу, а можна — як на дасьпелае ў нацыянальным сэнсе грамадзтва. Нашай сытуацыі маглі б пазайздросьціць некаторыя разьвітыя краіны — праблема меншасьцяў у нас яшчэ не паўстала на поўны рост, яшчэ не абламілася ў палітычную плоскасьць. Беларусь яшчэ можа пакінуць гэтую праблему ў плоскасьці культурнамоўнай, куды іншыя імкнуцца яе вярнуць. Беларусь яшчэ можа мець апераджальнае ў гэтай справе заканадаўства, абапертае на тым, каб не статуяваць нашыя нестатуяваныя меншасьці. Напрыклад, адчыняць рознамоўныя школы паводле рэальных кадравых патрэбаў дзяржавы ў сьвятле заўтрашняга беспрацоўя, а не паводле «ўблажэньня» купкі спалітызаваных «нацменаў». Беларускія школы з украінскай, ангельскай, карэйскай мовамі навучаньня мусяць быць найперш сацыяльна апраўданымі. У Літве такі падыход ужо ня пройдзе, у Гішпаніі — яшчэ ня пройдзе, а на Беларусі, дзе праблема не занядбаная, а толькі вось-вось паўстане й спалітызуецца — можа прайсьці. Дзяржава зыходзіць з *ratio*. Што да «пары» нацменскіх амбіцый, дык яна можа выходзіць праз прыватныя ініцыятывы, у т.л. і школы.

Яшчэ адзін прыклад — межы. Сёньня Беларусь люстэркава паўтарае тое, што робяць суседзі. З польскага боку дрот — і зь беларускага дрот, зь літоўскага візы — і зь беларускага візы, з украінскага мытні — і зь беларускага мытні, з расейскага нічога — і зь беларускага нічога. Ніякае суб'ектнае волі ў гэтым няма. Гэта хутчэй тэрытарыяльны рэфлекс, які патрабуе вялікіх затратаў. Гэтыя мытні, візы, драты нічога не зьберагаюць, а толькі множаць карумпаванае чынавенства й мафію. Любы беларускі памежнік вельмі цьмяна ўяўляе, ШТО ён ахоўвае. Спэцыфіка «адсталасьці» й тут можа абярнуцца заўтрашнім эўрапейскім стандартам. На папулярнасьці краіна заробіць, на непапулярнасьці — прайграе, на невядомасьці — прападзе.

У гісторыі мы ня ведалі сваёй дзяржаўнай мяжы — так, як яе ведалі іншыя эўрапейскія народы. І калі сёньня ў іх гэтае паняцьце даходзіць да ўзроўню нашага «няведаньня», нам зусім ня варта вяртацца туды, адкуль прыйшлі яны. Высокія платы будзяць цёмныя думкі.

У часы афармленьня дзяржавы мусіць быць абраны адзін з двух прынцыпаў — ізаляцыя або адкрытасьць. Сярэдзіны тут ня дадзена, бо абраны прынцып падмуркам кладзецца ў фундамэнтальную ідэалёгію дзяржавы, на ім будуецца ўсё астатняе, таму ён мусіць быць цьвёрды. Ізаляцыя для Беларусі не традыцыйная, да таго ж занадта слабы ў нас унутраны стрыжань. Пры адкрытасьці краіна акрэсьліваецца не зь сябе, а як бы суседзямі. Яшчэ ніколі краіна, якая сьведама адкрывалася, ня страчвала сябе.

Гістарычна нашае месца ў эўрапейскай інтэграцыі — пярэдні край на шляху ў Расею. Для Расеі мы — першая эўрапейская дзяржава. Колісь першыя кніжкі вазіў у Маскву Скарына, з цывілізатарскай місіяй езьдзілі туды й працавалі там Пётра Мсьціславец, Сымон Полацкі ды сотні іншых. Сутнасна нічога не зьмянілася з тых часоў. І тое, што Расея кантактуе з Эўропай цераз нашу галаву — толькі часовая нязручнасьць.

Такім чынам, Беларусь — гэта першая для Расеі Эўропа. І пакуль у палітыцы высьвятляюцца іншыя рэзоны, паспалітыя людзі, суполкі й фонды маглі б першымі для паспалітага расейца прадстаўляць вартасьці сучаснае цывілізацыі. Іх сьвядомасьць і чыннасьць — арыенцір для тае Расеі, якая прагне выбрацца зь бясконцага «смутного времени» й далучыцца да сучаснага сьвету.

Калі імідж краю не ствараецца наверсе (калі там — блытаныя пастановы, брак інфармацыі, брак тлумачэньняў), тады ў большай ступені ён ствараецца ўнізе. Наш сусед зьезьдзіў у Галяндыю — і ўжо цэлы дом глядзіць на ўсю Заходнюю Эўропу ягонымі вачыма. А цэлы дом у Галяндыі атаясамлівае Беларусь з нашым суседам. Істотнае тут тое, што і сусед, і ягоны сябра-галяндзец у гутарках былі ня толькі міжвольным увасабленьнем сваіх краін і народаў, а сьведама тварылі іх імідж. Прычым наш сусед імкнуўся не адставаць, гуляць на роўных, вышукваючы ў сваім краі ўсё лепшае й прывабнае. Ён сам для сябе адкрываў раптам — як можа быць. Вось зь якім досьведам вярнуўся ён з Галяндыі дадому. І хай ён тройчы рускамоўны й нацыянальна нясьведамы, але там, у Галяндыі, ён заўзята даказваў, што Беларусь — не Расея, што ў нас свая мова, і зь дзіўным для сябе пачуцьцём пальцам праводзіў па мапе мяжу свайго краю — упершыню ў жыцьці.

Магчыма, гэта самы моцны сродак прачысткі мазгоў ад чужых імпэрскіх стэрэатыпаў. Нездарма ў Эўропе столькі ладзіцца цяпер жывых кантактаў — з самых іншы раз недарэчных нагодаў. Нездарма столькі адна краіна для другой вяшчае па радыё, выпускае друкаў, праводзіць сустрэч. Эўропа паступова ператвараецца ў адно вялікае ЦРУ.

Наш аддзел — пры Расеі. Яна агромністая для невялікай Беларусі. Але не вялікія захопы, амбіцыі й багацьці, а вялікія задачы твораць веліч сучасных дзяржаў. Той Беларусі, пра якую мы марым, лёгікай эўрапейскага разьвіцьця падрыхтаваная свая дзялка працы, і мы мусім урабляць яе.

---

разнастайных твораў. Вось, напрыклад, дражнілкі-імітацыі птушыных галасоў:

*«ЦЕЦЯРУК. А як гавора-балбоча цецярук вясной сваім вясельлям-такаваньням? Ён кажа:*

*— Твой парабак ад майго парабка сякеру ўкраў, Скажы свайму парабку, каб майму парабку сякеру аддаў.*

*Есьць такая і прыказка ў павеця Віленска-Троцкім: «Балбоча, як цецярук».*

*ЛАСТАВАЧКА. Ластавачкі так лаяць вясковага пастуха:*

*— Пастух-трыбух нінажэра, У хаця жарэць, у поля бярэць І ўсё яму мала, мала...*

*ВЕРАБЕЙ. Як гавораць нашыя шэрыя верабейчыкі: зімой яны скорчыўшыся скачуць па дарозя, дзяўбуць гаўнякі конскія і кажуць: «Чуць жыў, чуць жыў, чуць жыву...» Вясной, калі маяць удоваль корму, кажуць: «Жыў-быў, гаўна ні еў, жыў-быў, гаўна ні еў...»*

*Запісаў са слоў дзядзькі Аліяша Стафановіча, калі яму было гадоў мо 70, у вёсцы Адамчукох Віленска-Троцкага павету ў 1930 г. Аліяш стары лічыўся тут да няўдалых гаспадароў, але затое Аліяш быў баюн на ўсю Лаварыскую аколіцу. Яго мы маладыя слухалі дзень і ноч, ноч і дзень, а ў яго байкаў хватала.*

*А.Янкоўскі».*

Жонка нашага адамчуцкага фальклярыста пані Наста таксама аказалася чалавекам зь цікавай біяграфіяй. Яна даводзіцца пляменьніцай у трэцяй стрэчы Браніславу Тарашкевічу, добра яго памятае. Гэта ён уладкаваў быў яе ў Віленскую Беларускую Гімназію. А перад тым пані Наста вучылася ў лясной беларускай школцы. Памятае сваю першую настаўніцу Валянціну Голуб, памятае, як вучылася чытаць і пісаць, седзячы на пяньках. Было гэта дзесь у 1918-19 гадох...



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# В.Іваноўскі ў люстэрку гісторыі



Янка Жамойцін

**● Jerzy Turonek. Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. Warszawa: Gryf, Instytut Historyi PAN, 1992.**

У кніжцы «Вацлаў Іваноўскі й адраджэньне Беларусі» Юрка Туронак старанна даказвае, што В.Іваноўскі стварыў беларускую нацыянальную ідэю, запачаткаваў беларускую нацыянальную сьведамасьць ды беларускую выдавецкую справу, мэтанакіравана імкнуўся праз усё жыцьцё да незалежнасьці Беларусі. Для падмацаваньня аўтар прадстаўляе лёс свайго героя на шырэйшым фоне гісторыі Беларусі й адклікаецца да шматлікіх бібліяграфічных крыніцаў.

У аўтаацэнцы кніжкі («Ніва», 15.11.1992) Ю.Туронак слушна заўважае супярэчлівасьці ў дагэтульных паглядах на ролю В.Іваноўскага ў беларускім руху. Супярэчлівасьці гэтыя ён зьвязвае з мужыцкім характарам руху (якому, маўляў, «не пасавала» шляхоцкае паходжаньне героя кніжкі), але як бы забываецца пры гэтым, што большасьць прызнаных дзеячоў беларускага адраджэньня таго часу не выводзілася з мужыкоў.

Асаблівасьцю сям'і Іваноўскіх — чатырох братоў і сястры — была розная нацыянальная ідэнтыфікацыя: брат Тадэуш здэкляраваўся летувісам і выхаваў сваю сям'ю на летувісаў, браты Ежы й Станіслаў ды сястра Галена зь сем'ямі сталі польскімі патрыётамі, а Вацлаў (чые сыны й дачка сталі палякамі) залічыў сябе да беларусаў. На этнічным памежжы гэткая асаблівасьць, мабыць, не выглядае зусім унікальнай. Аднак жа факт цеснай сувязі адзінага ў сям'і — Вацлава — зь беларускім рухам наводзіць на думкі.

З кніжкі Ю.Туронка не вынікае, што духоўная повязь Вацлава зь беларускім народам была адназначнай. Апісаны выпадак са Зьміцерам Жылуновічам, як ніяк, ужо ведамым у тым часе грамадзкім дзеячом і, калі не аднадумнікам В.Іваноўскага, дык сама менш партнэрам у справе, паказвае нешта супраціўнае: В.Іваноўскі паставіўся да свайго госьця Жылуновіча з той дозай пагарды, якой тыповы польскі абшарнік на Беларусі абдзяляе чалавека ніжэйшага стану. Прорву між сямейным асяродзьдзем Іваноўскіх і жыхарамі Лябёдкі паказвае Тадас Іванаўскас у сваім апавяданьні пра лютасьць мужыкоў да яго сям'і, чаго нельга залічыць да тыповых адносінаў беларускіх сялянаў да суседзяў, хай сабе й абшарнікаў. Калі да гэтых эпізодаў дадаць ужо згаданае выхаваньне В.Іваноўскім сваіх дзяцей на палякаў, узьнікае сумлеў, ці жыцьцёвая філязофія, склад думкі й грамадзкая пастава героя кніжкі Ю.Туронка супадала са спадзяваньнямі беларускага народу? І што ж тады магло схіліць В.Іваноўскага да зацікаўленьня беларускімі праблемамі?

Інтэлігенцкая моладзь пераломy XIX—XX стст. не была пазбаўленая ўплыву рамантызму. Маладыя людзі з абшараў колішняга Вялікага Княства Літоўскага, захапіўшыся гісторыяй філяматаў і філярэтаў — спробай змаганьня з расейскім імпэрскім прыгнётам народаў, ахвотна ўспрыймалі папулярную ў тым часе ідэю сацыялізму. Рэчышча гэтай ідэі захапіла й В.Іваноўскага, і ён навязаў лучнасьць з Польскай Партыяй Сацыялістычнай (ППС). Нароўні зь незалежнасьцю Польшчы ППС ставіла ў сваёй праграме мэту вызваленьня з сацыяльнага й эканамічнага ўціску іншых народаў былога ВКЛ — летувісаў і беларусаў, якіх залічала да польскае сфэры ўплываў. Для дасягненьня гэтае мэты ППС вяла асьветніцкую дзейнасьць сярод беларускіх масаў.

Падрыхтаваная В.Іваноўскім у паразуменьні зь Лявонам Малецкім «Адозва да інтэлігенцыі» адназначна адлюстроўвае ідэю ППС. В.Іваноўскі знайшоўся ў руху партыі, якая яму, як адзначае Ю.Туронак, давярала й шмат ад яго спадзявалася: ён супрацоўнічаў з выдатнымі яе дзеячамі, асабліва з М.Фальскім, С.Багушэўскім і Л.Васілеўскім. Здольны й інтэлігентны, ён уцягнуў у арбіту сваёй дзейнасьці маладых людзей беларускага паходжаньня, а нават спрабаваў стварыць палітычную базу для працы зь імі ў Пецярбурзе. Па яго ініцыятыве ў 1902 г. стварыўся гурток, які атрымаў назоў «Беларуская Рэвалюцыйная Партыя» (БРП). Пад шыльдай гэтай партыі быў калегіяльна падрыхтаваны нумар часапісу «Свабода», які В.Іваноўскі пад націскам бацькі зьнішчыў, замест таго, каб па даручэньню рэдакцыйнага калектыву надрукаваць. На гэтым фактычна й скончылася дзейнасьць БРП.

На яе месца арганізавалася ў 1903 г. пад кіраўніцтвам І.Луцкевіча й з удзелам В.Іваноўскага ды А.Луцкевіча Беларуская Рэвалюцыйная Грамада (БРГ), якая ў хуткім часе зьмянілася ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду (БСГ) — асноўную беларускую палітычную арганізацыю. В.Іваноўскі аддаўся выдавецкай дзейнасьці, у міжчасе арганізуючы супольна зь І.Луцкевічам Круг Беларускай Народнай Асьветы й Культуры, узорам якому паслужыла польскае Koło Oświaty Ludowej. На зломе 1905/1906 гг. ён паклікаў да жыцьця выдавецкую суполку ў Пецярбурзе — «Загляне Сонца ў Наша Ваконца», дзе паказаў сябе як здольны, энэргічны арганізатар і прадпрыймальнік, які мог здабыць фінансавыя сродкі й пайшчыкаў (між іншым у польскім асяродзьдзі) для маланадзейнага ў эканамічным сэнсе прадпрыемства. Праграмна-тэматычнай працай заняўся Б.Эпімах-Шыпіла, а В.Іваноўскі ўзяў на сябе арганізацыйныя справы. У публікацыях В.Іваноўскага дарма дашукоўвацца яго собскай думкі ці палітычнай праграмы. Апрача выдавецка-арганізацыйнае працы й некалькіх публікацыяў на сельскагаспадарчыя тэмы, заслугай В.Іваноўскага была публікацыя пра жыцьцё й творчасьць Дуніна-Марцінкевіча ды апрацаваньне лацінкаю часткі беларускага лемантара на аснове польскага буквара Казіміра Промыка. Незалежна ад некаторых недахопаў, лемантар гэты меў несумненнае значэньне ў навучаньні беларускай пісьменнасьці, як, дарэчы, выдавецкая дзейнасьць спрычынілася да разьвіцьця нацыянальнае сьведамасьці й адраджэнскае думкі беларусаў. Але гэта ня значыць, што В.Іваноўскі стварыў беларускую нацыянальную ідэю й запачаткаваў беларускую сьведамасьць. Нацыянальная ідэя й сьведамасьць як сацыяльнае зьявішча ня творыцца адным чалавекам.

Кажучы пра ўплыў выдавецкай і асьветніцкай дзейнасьці В.Іваноўскага на разьвіцьцё нацыянальнай сьведамасьці беларусаў, трэба пры тым заўважыць, што застаўся ён верны сваёй юнацкай ідэі носьбіта асьветы ў народ, пра што піша і Ю.Туронак. Апроч суполкі «Загляне Сонца...», у 1913 г. В.Іваноўскі зарганізаваў Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні (БВТ), пісаў у «Нашу Ніву» артыкулы на сельскагаспадарчыя тэмы, выдаў зь І.Луцкевічам «Вянок» М.Багдановіча, адыграў важную ролю ў зарганізаваньні пэдагагічнага інстытуту ў Менску (а пасьля працаваў у гэтым інстытуце), згадзіўся прыняць функцыю міністра асьветы ва ўрадзе А.Луцкевіча ў 1918 г. і супрацоўнічаў зь Беларускім Навуковым Таварыствам (БНТ). Пасьля 20-гадовай адсутнасьці ў беларускім руху, у часе нямецкай акупацыі ў Менску, ён прадоўжыў місію В.Гадлеўскага (загубленага немцамі) — разьвіваў беларускую асьвету й культуру.

Што тычыцца палітычнай працы, дык яшчэ ў Пецярбурзе В.Іваноўскі быў прадстаўніком кіраўніцтва БСГ. Але па меры радыкалізацыі незалежніцкай думкі яго стаўленьне да беларускай справы рабілася штораз болей гнуткае, даходзячы да спрыяньня палітыцы Ю.Пілсудскага адносна заходніх абшараў Беларусі. В.Іваноўскі не прыняў удзелу ад імя петраградзкай БСГ ва ўстаноўчым зьезьдзе Беларускага Народнага Камітэту ў Менску 25-27 сакавіка 1917 г., не ўвайшоў у склад тымчасовага цэнтральнага камітэту БСГ ў чэрвені, ані ў склад беларускай дэлегацыі на палітычную агульнарасейскую канфэрэнцыю ў Маскве ў жніўні, і ня ўдзельнічаў у кастрычніцкім зьезьдзе БСГ у Менску. Таксама пасыўна ставіўся да абвешчаньня незалежнасьці БНР 25 сакавіка 1918 г. ажно да пакліканьня яго А.Луцкевічам на становішча міністра асьветы перад бальшавіцкім наступленьнем. Звольнены з бальшавіцкага лягеру ў Смаленску ў 1919 г. у выніку дамовы з палякамі аб абмене зьняволенымі, В.Іваноўскі заняў выразна палянафільскую пазыцыю.

У рэаліях польскай акупацыі Беларусі беларускія дзеячы спадзяваліся ад В.Іваноўскага падтрыманьня беларускіх інтарэсаў у перамовах з палякамі. А ў сваю чаргу польскі бок таксама спадзяваўся на яго як на свайго чалавека і стараўся забясьпечыць ягоны ўдзел у прадбачаным польска-беларускім спатканьні ў Менску.

У пачатку лютага 1920 г. В.Іваноўскі спаткаўся зь Ю.Пілсудзкім, зь якім абмяркоўваў, між іншым, магчымасьць стварэньня беларускага войска. Аднак жа асноўная тэма спатканьня — гэта, як сьцьвярджае Ю. Туронак, — адкрытае пытаньне. Адказам на гэтае пытаньне была пастава В.Іваноўскага ў беларуска-польскіх перамовах у Менску 20 сакавіка 1920 г. В.Іваноўскі выступаў як муж даверу беларускага боку: ягоны голас быў ў беларускай справе вырашальны. Ад перамоваў Ю.Пілсудзкі адлучыў Ежы Асмалоўскага (Komisarza Zarządu Cywilnego Ziem Wscho-

# Паўднёва-заходні сэпаратызм

Павал Церашковіч

Заходняе Палесьсе — найбольш спэцыфічны рэгіён Беларусі. Адзінай думкі пра этнічную прыналежнасьць яго карэннага насельніцтва ніколі не йснавала. Шмат даследнікаў XIX—XX стст. адносіла насельніцтва Берасьцейскага, Кобрынскага й часткова Пружанскага паветаў да ўкраінцаў (Я.Карскі, Е.Раманаў, М.Каяловіч, Р.Эркерт, А.Рыхціх). Падставай было падабенства паляшуцкага дыялекту да ўкраінскай мовы.

**Згодна з этнастатыстычным дасьледаваньнем Гарадзенскай губэрні за 1869 г., у Берасьцейскім і Кобрынскім паветах украінцы складалі 51% і 69,5%, беларусы — 33,4% і 18% адпаведна[1]. Першы ўсеагульны перапіс 1897 году дае наступную карціну: у Берасьцейскім, Кобрынскім і Пружанскім паветах украінцаў было — 64,3%, 79,5% і 6,6%, беларусаў — 1,8%, 0,8% і 75,5%. У Пінскім, Мазырскім і Рэчыцкім паветах украінцаў адпаведна 0,6%, 0,1% і 1,6%, беларусаў — 74,3%, 79,4% і 82,5%.**

У той жа час некаторыя дасьледнікі лічылі, што заходнепалескае насельніцтва пры ўсёй своеасаблівасьці больш блізкае да беларусаў, чым да ўкраінцаў. Такой думкі прытрымліваліся М.Доўнар-Запольскі, І.Эрэміч. Ю.Талька-Грынцэвіч, які падкрэсьліваў разам з тым, што антрапалягічныя рысы дазваляюць вылучыць палешукоў у асобную групу. А Е.Бяльніцкі-Біруля ўвогуле лічыў, што да беларусаў трэба адносіць ня толькі жыхароў поўдня Гарадзенскай губэрні, але й насельніцтва Ковельскага, Ровенскага, Луцкага, Оўруцкага й Радамасьльскага, частак Наваград-Валынскага й Жытомірскага паветаў, сярод якіх захаваліся рэшткі «першапачатковай Крывіцка-Беларускай гаворкі»[2].

**Аб прыналежнасьці значнай часткі жыхароў Берасьцейскага, Кобрынскага й Пружанскага паветаў да беларускага этнасу сьведчаць і некаторыя статыстычныя крыніцы. Напрыклад, згодна са зьвесткамі ў «Обзоре Гродненской губернии за 1913 год», украінцы ў Кобрынскім і Пружанскім паветах складалі ня больш за 0,01% і толькі ў Берасьцейскім — 65,9% (беларусаў тут — 5,7%). Ранейшыя «обзоры» сьведчаць, што з 1903 па 1913 год практычна ўсе хлопцы, якія прызываліся у войска з гэтага рэгіёну пазначаныя як беларусы.**

Пэўнае кола дасьледнікаў разглядала жыхароў Заходняга Палесься як прадстаўнікоў больш-менш самастойнай этнаграфічнай і лінгвістычнай групы. Адным зь першых гэтак лічыў П.Шпілеўскі. Ён сьвядома адрозьніваў «палескую мову» ад беларускай і даволі дакладна вызначыў яе межы.

Каштоўныя зьвесткі пра этнічны склад знаходзяцца ў так званых «Прыходзкіх сьпісах»[3]. Гэтая крыніца адыграла асаблівую ролю ў ідэалёгіі заходнепалескага руху й заслугоўвае спэцыяльнай увагі. Нярэдка яе памылкова лічаць перапісам. На самой справе гэта — апытальныя лісты, якія ў 1857—1860 гг. былі распаўсюджаныя па ініцыятыве акадэміка П.Кепена. Анкеты, у якіх было толькі два пытаньні — аб колькасьці насельніцтва й яго этнічнай прыналежнасьці («якога племені»), запаўнялі прыходзкія сьвятары. Адсутнасьць дакладна вызначанага сьпісу плямёнаў, паводле якога трэба было ідэнтыфікаваць жыхароў, стварала магчымасьць фіксацыі мясцовых формаў самасьвядомасьці. Разам з тым, анкеты маглі адлюстроўваць і чыста суб'ектыўныя погляды прыходзкіх сьвятароў. Так, у межах Заходяга Палесься зафіксаваныя «славяна-русы» (магчыма, проста «русіны»), «літоўцы» («ліцьвіны»), «маларосы», «беларусы», «бужане» й «яцьвягі».

Найбольшую цікавасьць выклікаюць назвы «бужане» й «яцьвягі». Што датычыць першых, то гэта хутчэй за ўсё рэальная саманазва жыхароў Пабужжа, пра што сьведчыць заўвага сьвятара – складальніка анкеты зь в. Зёлава Кобрынскага павету: «Паводле паходжаньня свайго бужане, доказам чаго служыць месца іх жыхарства».

Больш праблематычнае існаваньне ў сярэдзіне XIX ст. яцьвягаў. Апрача Берасьцейскага й Кобрынскага паветаў «Прыходзкія сьпісы» зафіксавалі іх у Ваўкавыскім (Дабраволя, Клепча, Ляўшова — 2843 чалавекі) і Бельскім паветах (Стары Кронін і Чыжы — 3741). У Берасьцейскім, Ваўкавыскім і Бельскім паветах яны ўтваралі адзіны арэал вакол Белавескай пушчы. Гэта было, як сьведчыць П.Шпілеўскі, «нейкае асобае племя, ці рускае, ці літоўскае, мова іх сумесь старажытна-літоўскай і рускай, адзеньне — палескае». Магчыма, менавіта гэтая група захоўвала рэшткі яцьвяскай самасьвядомасьці, тым больш, што месца іх жыхарства супадае з арэалам расьсяленьня старажытных яцьвягаў.

Куды менш верагоднае тое, што яцвягамі сябе у той час лічыла большая частка насельніцтва Кобрына, Антопаля і г.д. У анкетах звычайна няма тлумачэньняў яцьвяскага паходжаньня жыхароў. У некаторых пакінутыя запісы: «Жыхары славянскага племені, але, магчыма, ёсьць прымесь старажытнага племені ядзьвінгаў» (м. Антопаль), «беларусы, якія паходзяць ад племені ядзьвінгаў і ячургаў» (в. Пыловіца), «усе прыхаджане паводле г. Паўлішчава павінны паходзіць ад племені летаў і яцьвягаў». У апошнім выпадку маецца на ўвазе падручнік М.Паўлішчава (1843), у якім зьмешчаны зьвесткі аб старажытных «яцьвягах» і «ядзьвінгах» — «народзе сармацкага паходжаньня, які жыў па Нараву й Бугу ў межах пазьнейшага Падлясься або Палесься». Верагодна, што менавіта гэтая праца паўплывала й на погляды астатніх сьвятароў. Бо апрача «Прыходзкіх сьпісаў», іншых сьведчаньняў аб рэальным існаваньні яцьвягаў у сярэдзіне XIX ст. няма. Больш таго, публікацыя вынікаў анкетаваньня М.Лябёдкіным у 1861 г. выклікала недавер навуковай грамадзкасьці менавіта з прычыны ўжываньня назваў старажытных плямёнаў. Вядомы дасьледнік П.Баброўскі неаднаразова падкрэсьліваў, што думкі аб існаваньні яцьвягаў у ягоны час — «грубая памылка», што «яцьвягі цалкам зьніклі».

Сам Баброўскі прапаноўваў называць жыхароў Заходняга Палесься «палешукамі», «пінчукамі», «бужанамі» («рушкамі») і падкрэсьліваў, што іх мова (каралеўская гаворка) значна адрозьніваецца ад гаворкі маларасійскай, а тым больш — ад беларускай, але з той і другой мае шмат агульнага. Падобныя думкі можна сустрэць і ў І.Зяленскага, які адзначаў, што «палесяне — жыхары Пінскага павету, не належаць ні да ўкраінцаў, ні да беларусаў, ні да чарнарусаў» і што мова іх — «пераход аб беларускай да валынскай гаворкі». Палешукамі называў жыхароў Пінскага павету і А.Кіркор. П.Чубінскі адносіў паляшуцкую гаворку да маларасійскай разам з украінскай і чырвонарускай, але падкрэсьліваў фанэтычныя адрозьненьні як ад украінскай, так і ад чырвонарускай. Т.Фларынскі лічыў «пінчукоў» беларусамі, хаця й адзначаў, што паводле гаворкі яны бліжэй да маларосаў, а мову насельніцтва Берасьцейскага, Кобрынскага й Пружанскага паветаў адносіў да палескай падгаворкі маларасійскай мовы. Словам, этнаграфічныя й статыстычныя крыніцы XIX — пачатку XX стст. не даюць падставаў для адназначнага далучэньня насельніцтва Заходнепалескага рэгіёну да ўкраінскага, беларускага ці самастойнага этнасу. Стракатасьць навуковых поглядаў адлюстравала этнакультурную сытуацыю. Працэсы кансалідацыі беларускай і ўкраінскай нацый у той час знаходзіліся ў пачатковай стадыі й практычна не закранaлі насельніцтва Палесься, ізаляванага з прычыны спэцыфічных прыродна-геаграфічных умоваў рэгіёну.

Да канца XIX ст. этнічная самасьвядомасьць жыхароў Заходняга Палесься вызначалася галоўным чынам лякальнай мэнтальнасьцю тыпу «гідуны», «загародцы», «столінцы», «пінчукі» і г.д. Разам зь імі ўжываліся назвы, зьвязаныя з тапонімамі Палесьсе. Усе гэтыя этнанімічныя формы адлюстроўвалі супольныя, валасныя, павятовыя й рэгіянальныя ўзроўні самасьвядомасьці.

У пачатку XX ст. акрэсьлілася арыентацыя інтэлігенцыі Заходняга Палесься на беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. Аб гэтым сьведчыць шматлікая карэспандэнцыя, якая дасылалася з гэтага рэгіёну ў газэту «Наша Ніва». Аўтары ўсьведамлялі адрозьненьні свайго рэгіёну ад «чыстай Беларусі», пісалі, што «мова палешукоў бліжэй да ўкраінскай». Аб захаваньні лякальных саманазваў сьведчылі й псэўданімы — Полешук, Пінчук, Бужанін. Такая арыентацыя была невыпадковая. Згодна з перапісам 1897 г. у Берасьцейскім і Кобрынскім паветах роднай мовай беларускую прызнала 9,5% мясцовых чыноўнікаў і 11% настаўнікаў, у той час як удзельная вага беларускага насельніцтва ў гэтых паветах не перабольшвала ў сярэднім 1,3%.

Да другой паловы XIX — пачатку XX ст. адносяцца першыя прыкметы зараджэньня й заходнепалескага руху. Найбольш значныя праявы — публікацыя палескага лемантара ў 1907 г. і літаратурная творчасьць на палескім дыялекце беларускага этнографа Мікалая Янчука[4]. Факт публікацыі лемантара пакуль што не зьяўляецца дастаткова даказаным, але відавочна й тое, што ён не выклікаў колькі-небудзь значнага грамадзкага рэзанансу. Не зусім зразумелай застаецца й сацыяльны

---

1 ФДГА Беларусі. Ф.14, воп.1, сп.601, а.6.
2 ЦА АНР. ф.292, воп.2, сп.20

3 Архіў АНР. ф.30, воп.2, сп.17.

4 Шэляговіч М. Яцьвяскае (палескае) адраджэньне // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. N12. С.8



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ХОДЗІЦЬ ПА ВУЛІЦЫ



Шараю гадзінай на вуліцах старое Вільні часта сустрэнеш няголенага чалавека ў вязанай шапачцы з паднятым каўняром паліто. У яго выгляд адсутнага, беспрытульнага й бязмэтнага бадзякі. Гэта Язэп Будрайць (Juozas Budraitis), вядомы артыст, старшыня Літоўскага Тэатральнага Саюзу. Артыст, які «ніколі не хацеў граць». Гутарка зь ім у газэце «Lietuvos rytas» стала нагодаю для інтэрвію ў Рэдакцыі «Нашай Нівы». Абедзьве гутаркі мы зьмяшчаем разам.

***«LR»: Вядомыя акторы ўсё часьцей здымаюцца ў рэклямных фільмах.***

Нехта павінен рабіць і гэта. Няма дрэнных прафэсій. Пытаньне ў адным: хто працуе й як працуе. Кліп — таксама фільм. І здымаць яго, і ўдзельнічаць у ім ня так ужо й проста. Сам я гэтым не займаўся, але мне здаецца, што гэта цяжкая праца.

***«LR»: А хацелася б?***

Я шмат чаго хачу. Але... Кожнага дня ўстаеш і думаеш, што рабіць з гэтымі намерамі. Усе дарогі вядуць у тэатральны саюз, старшынёй якога я ўжо трэці год.

***«LR»: Ці часта Вы ходзіце ў тэатар?***

Не скажу, што вельмі часта. Хочацца чагосьці асаблівага. А такое здараецца рэдка.

***«LR»: Ці не адбылося ў тэатры чагосьці такога, каб Вы маглі ўсклікнуць «Ах!» і потым памаўчаць?***

Больш за ўсё мне падабаюцца працы Некраша (Nekrošius). Любыя. Але яны такія рэдкія. І яшчэ — акторы ў маладзёжным тэатры. Ужо ня моладзь. Мэтры. Яшчэ мне вельмі падабаецца тэатральная сытуацыя ў Літве. Багата трупаў, яны рухаюцца, перамяшчаюцца, аднак статычнасьці пакуль няма, як няма пакуль што й рызыкі, авантуры. Усе вельмі сур'ёзныя. Занадта сур'ёзныя.

***«НН»: А ўвогуле Вы на ўсё гэта глядзіце аптымістычна?***

Так. Я бачу, што адбываецца тое, што мусіць адбывацца. Калі ёсьць расцэнтралізацыя, то кожная зьява набывае сваю новую форму. Праз стварэньне мноства малых трупаў, якія нясуць новую думку, экспэрымэнт і г.д. Толькі праз гэта мы можам прыйсьці да нейкага пэўнага абагульненьня, да тэатральнай структуры, да рэформы. Рэформу нельга правесьці штучна, бо ніхто ня ведае, як гэта рабіць. Мы ня можам прыроўнівацца да так званых разьвітых краін, а мусім ісьці ў сваім рэчышчы. Бо калі казаць пра ўсялякіх там спонсараў — у нас іх багатых няма, і нават традыцыі такой няма. Напэўна, самы лепшы спосаб — не замінаць, даць арганічна разьвівацца гэтаму працэсу. І — захаваць тое становішча, якое йснавала, ня даць адбыцца поўнаму хаосу. Яго пакуль няма. Пакуль дзяржава можа фінансаваць тэатры, якія лічацца дзяржаўнымі — небясьпекі ніякай, таму што паступова, мякка, аксамітна ўсё пераходзіць у тую форму, якую трэба. А калі кажуць пра крызыс тэатральнае думкі ці мастацтва, што тэатральныя залі апусьцелі — я таксама не зусім згодны. Можа быць, сапраўды працэс стаў больш несьвяточны, але неяк нешта дзейнічае. І калі кажуць, што рэжысуры цяпер няма, — дык яна ня можа быць увесь час на вельмі высокім узроўні. Ёсьць этапы, калі зьяўляюцца адзін ці два чалавекі, што разбураюць старыя традыцыі, прыносяць нешта новае, новую эстэтыку — яны ня могуць зьяўляцца кожны дзень. Калі зьявіліся Войтка (Vaitkus), Някраш, яны

# ГІСТОРЫЯ КАТА

*Працяг са старонкі 5*

разам зьезьдзіць у Вільню». «Даўно ня быў у Мірскім замку, пэўна яго канчаткова засёрлі галубы». Каб не любоў да кніжак, перакананы, з нашых намераў выйшаў бы пшык. Сімачка палез на антрэсолі й выцягнуў з-пад газэтаў томік Янкі Купалы, выдадзены ў 20-я гады. Мяккія знакі, слова «Менск» і трагічна-сьмяшлівыя сцэны «Тутэйшыя» леглі ў падмурак нашага гуртка з двух чалавек. Купалаўскія чытаньні мы пачалі ладзіць штотыднёва. І праз які месяц надумалі пашырыць кола чытачоў забароненых твораў на аднаго чалавека. Сякеру бяруць пад лаваю. Я запрасіў да Сімачкі ў госьці Алеся Ласевіча. З'агітаваць чалавека зусім ня проста, асабліва на нешта антыдзяржаўнае. Ён баіцца, ты баісься. Страх накладаецца і ўзрастае не ў арытмэтычнай прагрэсіі, дзе два на два чатыры, а павялічваецца ў разоў дзесяць-дванаццаць. Кніжку Купалы Ласевіч узяў, і гэта была першая перамога беларускага арганізаванага нацыяналізму ў кватэры Кудлачоў. Далей пайшло лягчэй. Мы радаваліся: ніхто нікому нікога не заклаў. А наш купалаўскі гурток пачало моцна заносіць улева, да тэрарызму. Тэрор — вельмі прывабная рэч, як сьвежаніна. Рэжце гітлерцаў паганых, каб ня ўскрэсьлі век яны! Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць! Але ад тэарэтычнай да рэальнай агрэсіі, дзякуй Богу, досыць вялікая адлегласьць. Скажу адразу, каб ты не хвалявалася. Мы так і не дайшлі да падкладаньня выбуховых прыбораў у дзіцячыя садкі ці школы. Нашыя пошукі ў галіне гвалту спыніліся значна раней, чым у нацыяналістаў Ірляндыі ці баскаў. Асабіста мяне да развагі пра тэрор вельмі падштурхнуў адзін малюнак, зроблены на белых дзьвярах грамадзкай прыбіральні ў Палацы мастацтва. Нейкі жыд накрэмзаў чорнай шарыкавай ручкаю шасьціканцовую зорку Давіда і напісаў: «Мы есть». Не разважаючы, не раздумваючы дый не аналізуючы сытуацыі, я дастаў аловак і зрабіў работу над памылкамі. Пад жыдоўскай зоркаю ўзьнік іншы надпіс — «Мы ёсьць», за якім чарнеў тлусты клічнік. У маім варыянце надпіс праіснаваў гады за тры, а можа й болей. Так ці йнакш, а першы крок я зрабіў, хай не сьвядомы, але ж зрабіў. Зрэшты, ці бываюць першыя крокі ў дзіцяці сьвядомыя й лягчэйшыя? Хутчэй не. Клэп-клэп-клэп. І пайшоў, пайшоў, упаў, узьняўся. Усьмешка бяззубая. І далей, далей. Клэп-клэп. Вось так, прыкладна, пачаў і я. Значна пазьней я ўбачыў сапраўднага тэрарыста, лацінаамэрыканца Карліса, які расказаў пра Чылі. Карліс быў у свае пятнаццаць гадоў перакананым камуністам, хаваючыся ў сутарэньнях, чытаў Леніна й Маркса, а калі да ўлады прыйшоў Пінaчэт — удзельнічаў у страйку. Бедная працоўная сям'я, вера ў лепшую будучыню, Чэгевара. Карліс панёс бомбу ў аўтобусны парк і падклаў яе ў машыну штрэйкбрэхера, як рабілі кніжныя й кіношныя рэвалюцыянэры. Загінула чатыры чалавекі. Карліс уцёк у Эўропу. З Францыі яго прагналі за ўдзел у нейкіх там чылійскіх «чырвоных брыгадах». У Менску Карліс скончыў мэдыцынскі інстытут і працаваў... кім бы ты думала? Гінэколягам! Вось бывае. Пры першым знаёмстве Карліс, зь якога Гена Цацкевіч маляваў партрэт, абазваў мяне Пінaчэтам. Ці ня сьмешна? Ну, які я Пінaчэт! Усё вайсковае я зь дзяцінства недалюбліваў. Я хацеў быць блазнам, а не генэралам.

А тут раптам бэнц — і Пінaчэт. І за што? Назваў Фідэля Кастра тэрарыстам. Дык яно ж так і ёсьць, для ўсяго сьвету. Ну ды Бог зь імі. З Карлісам памірыўся, і ён запрасіў на сьвята ў чылійскае таварыства. Ніколі ня думаў, што ў Менску так многа знойдзецца лацінаамэрыканцаў. Іх набегла поўная студэнцкая сталоўка. Жанчыны ў понча, а вось мужчыны, чамусьці, былі апранутыя па-эўрапейску, ім зусім не пасавалі гэтыя апранахі. Ім да твару былі б чорныя капелюшы, паходні й мачада. На вялізных пано я й маляваў на замову Карліса лацінаамэрыканскія твары й кулакі з паходнямі. «Нам бы такіх мастакоў, як ты, наболей. Мы, калі вернемся на Радзіму, усе сьцены размалюем рэвалюцыйнымі карцінамі. Вось пабачыш!» — сказаў Карліс і ўзнагародзіў мяне й Гену Цацкевіча дзьвюма пляшкамі чырвонага віна, потым зьнік у натоўпе танцораў. Ён зьнік назаўсёды. Казалі, Карліс паехаў у Карэю дабудоўваць камунізм. Можа й так, мне ўсё роўна. Я чамусьці не перажываю за чылійскага Карліса. Хто-хто, а тэрарыст-гінэколяг сябе ў крыўду ня дасьць. Калі каму варта паспачуваць, дык ягоным ахвярам з аўтобуснага парку, якіх паразрывала на дробныя кавалкі. Карліс расказваў: тыя кавалкі зьбіралі ў празрысты плястыкавы мех, які зьвязалі белым матузом. Пэўна ж, такім, які я выцягнуў з кішэні ў сутарэньнях, калі намерыўся забіць ката. Я паспрабаваў скруціць пятлю, але нічога не атрымлівалася, заміналі вялікія бацькавы пальчаткі, дый левая рука была занятая — ціснула жывёліну да падлогі. Я строс пальчатку з правай рукі й паспрабаваў перахапіць каціны карак, але ў гэтае імгненьне жывёла выгнулася й увагнала іклы ў маю далонь паміж вялікім ды ўказальным пальцамі. Я ўскочыў, узьняўшы ката над зямлёю, і што было сілы сьціснуў яму шыю. Ён захакаў, разявіўся, я вызваліў руку й пачаў залізваць ранку. Болю ня чуў. Мяне ўсяго калаціла ад невядомай дагэтуль нэрвовай узбуджанасьці. Убачыўшы пустую скрынку, я ўзрадаваўся магчымаму перадыху й засадзіў ката пад яе. Павольна зьвіў пятлю, другі канец вяроўкі перакінуў праз трубу, што цягнулася пад бэтоннай стольлю. Пятля пагойдвалася нібыта вялізная, намаляваная лініяй лямпачка. Каб дастаць ката з-пад скрынкі, давялося праламаць верх і зноў узьдзець пальчаткі. Потым я ўсунуў каціную галаву ў пятлю й пацягнуў за канец вяроўкі. Кот павіс. Ён уздрыгваў, круціўся, спрабуючы кіпцямі садраць з шыі пятлю. І раптам жывёліна аціхла, хвост і лапы выцягнуліся, цела зрабілася худое й нейкае пустое. Такімі вялымі й пустымі выглядаюць футраныя цацкі зь якіх высыпалася пілавіньне. Вяроўку з павешаным катом я згадаю праз дзесяць гадоў у Маскве, на выставе малавядомага чэскага графіка, Густава Вары. Буду стаяць і глядзець на маленечкі малюнак тушшу — начное зорнае неба зь лімоннай костачкай месяца, сьветлая сьцяна, голая галіна, вяроўка, павешаны чорны кот. З усёй паездкі ў Маскву, дзе купляў эцюднік, палітру, фарбы й пэндзлі, застаўся ў памяці маленечкі малюнак. Можа я крыху блытаю мужнасьць з жорсткасьцю, але каб намаляваць павешанага ката, безумоўна, патрэбная была мужнасьць. Гэта зьнітавана зь перакосамі ў афіцыйна прынятай маралі, што панавала на тэрыторыі сацыялістычнага лягеру. Мастакам дазвалялася маляваць трупы людзей, якія загінулі ў барацьбе. І чым больш было тых трупаў, тым большую павагу меў іх стваральнік. На палотнах і кінаэкранах ляжалі горы трупаў, і нікога яны не хвалявалі. Былі свае й чужынцы, было апраўданьне крыві, дзеткі насілі кветкі да абеліскаў. Войны падзяляліся на правільныя й няправільныя, захопніцкія й вызвольныя. У падручніках па гісторыі зьмяшчаліся фатаздымкі часоў другой сусьветнай вайны: шыбеніца, вайсковец узьдзявае пятлю на дзявочую шыю, побач вісіць хлапец са зьвязанымі за сьпінаю рукамі, ці — местачковы пусты пляц, пасярод яго зноў шыбеніцы, чатыры павешаныя мужчыны. Яны нам такое рабілі, дык мы ім зробім яшчэ й не такое! Заставалася растлумачыць, хто — яны й хто — мы. Мы — рускія, яны — немцы. Але гэтая схема падыходзіла да першаклясьніка й зусім не апраўдвала сябе сярод старэйшых. У дзедавай вёсцы расейскія казакі закатавалі, паадразалі мужчынам чэлясы шаблямі за нейкую ўяўную сувязь з расейскімі партызанамі. Таму схему дапрацавалі — увялі здрадніка. Ёсьць яны, ёсьць мы і яшчэ здраднікі, Юды. Але што рабіць з павешаным, закатаваным чорным катом. Дзе на малюнку вораг, а дзе свой? Кот не ўваходзіў ні ў якія лягеры, не ўступаў у партыі, ён ня мог здрадзіць, атрымліваецца, што ён свой, наш. А той, хто павесіў, чалавек — вораг. Але чалавек — цэнтар сусьвету, так вучылі ў школе на занятках па біялёгіі. Чалавек — гучыць горда. Чалавек! Вораг не чалавек. Вораг — мастак, інтэлігент, драбок праслойкі паміж сапраўднымі людзьмі: пралетарам і селянінам. Толькі вораг мог намаляваць павешаную жывёлу й тым абразіць як савецкага чалавека, так і Чалавека зь вялікай літары. 1975 год, у СССР ніхто не парушае ўсталяванай маралі акрамя вар'ятаў і паўвар'ятаў, якім лекары пасьпешліва выдаюць даведкі. Ня любіш таталітарны рэжым — вар'ят. Ня хочаш служыць у войску, дык толькі скажы, і на сорак дзён трапіш у вар'ятню. А тут раптам маленечкі малюнак: павешаны кот. Прыстойная заля зь мяккім сьвятлом, цішыня, зашклёныя рамкі, малюнкі. У адной з рамак фотатвар мастака: барадаты сярэдняга веку чалавек і зусім не вар'ят, здаецца дзіўна, але чэскі мастак падтрымаў мяне вельмі моцна. Значыцца, можна парушаць таталітарную мараль, бо ёсьць шчыліны, нішы, закуткі, куды не трапляе сьвятло цэнзурных ліхтароў. Ёсьць патаемныя месцы, пра якія забыліся напісаць у інструкцыях і цыркулярах. Іх трэба знайсьці, убачыць. І я шукаў, спачатку адзін, потым шукалі ўтрох — я, Алесь Ласевіч дый Сімачка Кудлач. Нам пашанцавала, бо вельмі хутка мы праскочылі ўласныя намеры стварыць тэрарыстычную суполку. Нават праз дваццаць гадоў я зьдзіўляюся жудасьці сваіх прапаноў, калі ў лесе каля вогнішча гаварыў: тэрор у ідэале сваім ня мае адрасу, бо ахвяра павінна быць выпадковая — на каго Бог пашле. І адзінае, над чым варта задумвацца тэрарысту, як пры мінімальных затратах энэргіі зрабіць максымальнае разбурэньне грамадзтва й дзяржаўных інстытутаў. Да прыкладу: выбух у маленькім аўтобусе зь дзецьмі зруйнуе грамадзкую думку пра ўрад у сто разоў больш, чым пажар на бэнзаскладах. Матэрыяльная шкода мізэрная ў параўнаньні з маральнай. І хай сабе старажытныя жыды сьцьвярджалі, што выбітае вока ці зуб можна кампэнсаваць грашыма, але кампэнсаваць сьмерць дзіцяці, як і любой іншай жывой істоты, немагчыма нічым, нават забойствам злачынцы. Таму дзяржава, у якой зьяўляецца тэрарызм, раней ці пазьней будзе вымушана зьмяніць свой грамадзкі лад, ці самой узьсьці ў тэрор, надзяліўшы міліцыянтаў правам забіваць. Пры ўсёй наіўнасьці й рамантызме, мы ўсё ж разумелі і ўсьведамлялі, што ў 70-х у СССР быў толькі адзін шлях: аднаўленьне карнага апарату. Карацей, наш гурток так і не правёў ніводнай акцыі, бо, чытаючы клясыку, мы паверылі не Янку Купалу й Максіму Багдановічу, а Францішку Багушэвічу. Знаць Чачота ўсе павінны і пра Зана дабрачыннасьць, пра Касьцюшку і Манюшку і пра песьняроў. Рукі ім падаўшы, знаю, зробім болей мы для краю, чымсьці разам ў бойках стойка праліваўшы кроў. Можна было б не пагадзіцца з Францішкам, які ўпісаў у шляхты інтэлегенцыі Т.Касьцюшку. Але гэтая драбяза нас не засмуціла, накірунак — вось аснова. І я не шкадую, што яна



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# ВАРОНЫ!

ваньняў у творчасьці рэальных падзеяў уласнага жыцьця працягвае Мірэлін расказ пра баўгарскага клясыка Пэё Яварава. Той баяўся цемры й сьлепаты. Калі ў яго на вачох зьвяла падрахункі з жыцьцём жонка, Пэё схапіў яшчэ цёплы пісталет і таксама спрабаваў застрэліцца, але толькі пашкодзіў якісьці нэрв і страціў зрок, каб, жывучы ў цемры, дзень пры дні чуць, што гэта ён забіў жонку.

Я намагаюся ўспомніць якія-небудзь прадчуваньні ў творчасьці сяго-таго зь беларускіх аўтараў і на свой сорам не магу ўзгадаць нічога наважнага, калі не лічыць прадчуваньня чарговага раману з асьпіранткаю — у творчасьці празаіка Н. і прадчуваньня выпіўкі й добрага закусону — адразу ў некалькіх маладых і сталых членаў СП.

Мае ганоўэрскія музы ўладкоўваюцца з цыгарэтамі на падлозе каля адчыненага гаўбца. Апошняе, што перакладае Мірэла: дачка баўгарскага прэзыдэнта Жэлю Жэлева скончыла жыцьцё самагубствам, а прэзыдэнт назаўтра пасьля хаўтураў прымаў вайсковы парад.

Я разгортваю апошнюю Мірэліну кнігу «Памет за подробности» й раптам пачынаю разумець баўгарскую мову. Кажуць, нескалі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін падчас дэкады беларускае літаратуры ў Літве, выправіўшыся ўраньні па піва, спыніўся ля газэтнага стэнду й раптам пачаў разумець па-літоўску. Праўда, неўзабаве высьветлілася, што ён унурыўся ў віленскі польскамоўны *Czerwony sztandar*. Але па-баўгарску я, далібог, нешта разумею.

**Між іншым, у Нямеччыне пачытваюць «Нашу Ніву». Доказ — неабвержны. На другой вечарыне Сільвія чытае перакладзены спадаром Норбэртам Рандавам з «НН» опус пад назваю «Тунэль зь Серабранкі ў Бэрлін».**

**Гэты тунэль прывёў нас у прытульную тэатральную кавярню. Людзей трохі болей, чым запаленых на ссунутых мармуровых століках сьвечак. Дзяўчына з валасамі й вачыма русалкі пытаецца, як завуць беларуску з профілем Нэфэрціці, што стукае абцасікамі па менскім асфальце. Я адказваю, што ў яе вельмі эўрапейскае імя. Дарэчы вынырвае сэнтэнцыя з Гесэвага «Дэміяна»: анфас — маска, сутнасьць пазнаецца ў профілі.**

**Наступнае пытаньне: ці адчуваеце вы, што немцы да вас халодныя й абыякавыя? Мірэла спраўляецца з адказам хутка. У мяне так не атрымліваецца. Я кажу пра нашу балцкую кроў і пра тое, што балцкія лейкацыты й эрытрацыты нясуць па жылах беларусаў балцкую стрыманасьць. Я кажу, што люблю, каб мяне не чапалі, каб ня лезьлі ў душу й не прапаноўвалі дзюбнуць за вуглом «пузыр» на траіх, закусіўшы плаўленымі сыркамі. Я кажу, што не хачу, каб мяне, ухвальна паляпваючы па плячы, называлі «простым парнем». Я не хачу быць гаваркім і не хачу выслухоўваць споведзі незнаёмых людзей. Я выказваю здагадку, што, напэўна, гэтыя рысы ўласьцівыя сярод беларусаў ня толькі мне.**

**Пакуль Мірэла перакладае, я ўспамінаю старую показку, як Васіль Іванавіч вяртаецца з Парыжу. «Што новага, Васіль Іванавіч, прывезьлі з Парыжу?» — пытаецца Пецька. «Ня ведаю, Пецька, яшчэ да доктара не хадзіў», — адказвае легендарны камдыў. Калі б я ведаў нямецкую мову або калі б не шкадаваў Мірэлы, я распавёў бы зараз яшчэ й гэтую показку і, інтрыгуючы публіку, паведаміў бы, што таксама заразіўся. Вытрымаўшы неабходную для належнага эфэкту пярэрву, я супакоіў бы чытачоў і асабліва чытачак, удакладніўшы, што ў Ганоўэры я заразіўся не на AIDS, а на нямецкі спакой.**

Эўропа робіцца бліжэйшаю. Вось і Бэрлін ужо ня мэта падарожжа, а ўсяго толькі прыпынак на зваротным шляху. Немцам падабаецца, калі Бэрлін называюць новай сталіцай Эўропы. (На мове М.Шаляговіча сталіца, калі не памыляюся, будзе «чолотвэрдь».) Мне цікава, што зьмянілася ў сталіцы за год, пакуль я не бадзяўся па Кюрфюрстэндам і Аляксандар-пляц, і я выходжу зь цягніка. Балазе, у Бэрліне, а дакладней, у яго былым заходнім сэктары жыве мая знаёмая — спадарыня Ядзьвіга зь беларускага шляхецкага роду Рымашэўскіх. Дзіва, што яна сустракае мяне, калі не як роднага сына, дык, прынамсі, як роднага пляменьніка.

Калі вы глядзелі фільм «Генэралы пяшчаных кар'эраў», дык мусіце памятаць кульгавага хлопчыка, што на колькі дзён трапляе ў багаты дом. У адрозьненьне ад хлопчыка, я пакуль што не кульгавы, не распавядаю сьлязьлівых гісторыяў пра таткаву сьмерць і ня маю сувязяў у крымінальным сьвеце. Усё астатняе вельмі падобнае да фільму.

У доме спадарыні Ядзьвігі, апрача яе з мужам Хельмутам, жывуць трынаццаць катоў на чале з заснавальніцай гэтай кашэчай дынастыі Паўлінай, якая сыта вуркоча ўжо цэлую чвэртку стагодзьдзя. Каты падзяляюцца на «сацыялістычных», што кватаруюць на цокальным паверсе, і «капіталістычных», якія па-гаспадарску пачуваюцца наверсе. Падзел чацьвераногіх гаспадароў паводле сацыяльна-эканамічных фармацыяў чыста ўмоўны, бо розьніца ва ўзроўні іх жыцьця ў літаральным сэньсе палягае ў прасторы. Проста «сацыялісты» схільныя да самоты й ня любяць чужых людзей. За колькі тыдняў да майго прыезду менавіта «сацыялістычны» паверх гэтай Мурлындыі, узьняўшы страшэнны вэрхал, папярэдзіў гаспадароў, што ў дом залезьлі злодзеі.

Колькасьці катоў у доме прыкладна адпавядае колькасьць гадзіньнікаў. Усе яны з боем, прычым ідуць з разьбежкаю, і раней за дванаццаць ночы спаць нязвыкламу чалавеку тут лепей ня класьціся, бо апоўначы ў пакоях пачынаецца праўдзівы канцэрт.

У адведзеным мне пакоі, які разы ў тры большы за ўсю маю менскую двухпакаёўку, стаіць на століку фатаграфія немаладога афіцэра ў эсэсаўскай форме. Гэта ня бацька гера Хельмута. Гэта першы муж спадарыні Ядзьвігі Фрыц. Іхняе каханьне пачалося ў 1941-м у Калодзішчах, пад Менскам, дзе стаяла Фрыцава вайсковая частка. За сувязь са славянкаю, а мабыць, і за іншыя грахі, накшталт лібэралізму з палоннымі, Фрыца перавялі ў Нямеччыну, але туды вывезьлі й Ядзю Рымашэўскую, і яны не маглі зноў не сустрэцца.

Фрыц напісаў на імя фюрэра рапарт з просьбаю дазволіць шлюб. Дазвол быў атрыманы з умоваю неадкладнай адстаўкі, што азначала застацца бяз сродкаў і жыць пад каўпаком спэцслужбаў. Ішоў 1944-ты. На шлюбным фота спадарыня Ядзьвіга ў чорнай сукенцы.

Фрыца няма ўжо болей за трыццаць гадоў. Перад ягонаю фоткаю кожны дзень стаяць кветкі. Побач з кветкамі ляжыць Фрыцава люлька (мая гаспадыня пяшчотна называе яе піначкай).

Гісторыя другога замуства дачкі беларускага шляхціца Адама Рымашэўскага таксама вартая калі не раману, дык аповесьці. Назаўтра пасьля хаўтураў фраў Шміт прыйшла на клады, выпіла пляшачку гарэлкі, абняла сьвежую магілу й прачнулася ўначы наміж надмагільных помнікаў. Удава прыходзіла на клады штодня — то сама, то з сынам. Аднойчы да яе ў дзьверы хтосьці пазваніў. На парозе стаяў малады чалавек з букетам. Яго звалі Хельмут. Адрас ён даведаўся на могілках ад вартаўніка. Прырода любіць раўнавагу. Фрыц быў гадоў на дваццаць старэйшы за жонку, Хельмут — амаль на столькі ж маладзейшы, аднак на фотаздымку зь іхняга вясельнага падарожжа абняўшыся стаяць аднагодкі. Пра здымкі апошніх гадоў можна, далібог, сказаць тое самае. На маё паведамленьне, што фраў Хедзьвіг Ноак — равесьніца «Великого Октября», Мірэла зь Сільвіяй толькі недаверна пераглянуліся й смыканулі плячыма.

Увечары, за кухлем піва, я слухаю ўспаміны спадарыні Ядзьвігі й разглядваю альбомы — вось дом у Калодзішчах, дзе яны з Фрыцам сустрэліся, вось касьцёл сьвятога Роха са зьбітым сьпічаком (фота рабіў у 1941-м Фрыц). Мы абмяркоўваем нядаўнюю тэлеперадачу пра сэксуальныя пэрвэрсіі, дзяўчынак-філіпінак зь нелегальных прытонаў і шлюбы лесьбіянак. Мая гаспадыня рашуча супраць такіх навацыяў, а я, бадай, не адмовіўся б на колькі дзён пераўвасобіцца ў сямейную лесьбіянку, каб дасьледаваць у такой ячэйцы грамадзтва, напрыклад, праблему адзюльтэру...

**Мы глядзім «відзікі» пра разбурэньне Бэрлінскае сьцяны й пра першыя гады акупацыйнага рэжыму саюзьнікаў. Я даведваюся, як сардэчна ставіліся савецкія салдаты да нямецкіх дзяцей і як яны без разбору гвалтавалі нямецкіх жанчын, дзяўчат і дзяўчатак, перасягнуўшы ў гэткіх подзьвігах і нямецка-фашыстоўскіх і татара-мангольскіх захопнікаў. (Адзінаццацігадовую сястру майго бэрлінскага знаёмца ўратавала тое, што на голаў п'яному салдату, які цягнуў дзяўчо ў ложак, ягоны яшчэ больш п'яны сябрук скінуў з другога паверху кватэры грамафон.)**

Ураньні, зьеўшы на дэсэрт трускавак або вішняў з саду, што глядзіцца ў вокны маіх гаспадароў, я выпраўляюся швэндацца па Бэрліне, ловячы сябе на думцы, што ўжо ведаю яго, прынамсі, значна лепей за Маскву.

У Бэрліне былая мяжа ўсходняга й заходняга сэктараў адчуваецца ня меней, чым летась. У заходнім на кветніках абавязкова растуць кветкі, ва ўсходнім, не раўнуючы, як дзе-небудзь у нашым Леплі, можа раскашавацца й лебяда. «Неўміручае і ўсемагутнае (потому что верное)» вучэньне здолела так пераўтварыць сьвет, што нават жоўтыя гарлачыкі ў заходнебэрлінскай сажалцы выдаюць відочна жаўцейшымі.

Водбліз станцыі падземкі на Фрыдрыхштрасэ наш былы суайчыньнік па Савецкім Саюзе тужліва пілуе на акардэоне «На позицию девушка провожала бойца». На недалёкіх могілках зь белага пастамэнту пад белай акацыяй зьдзіўлена ўслухоўваецца ў экзатычную мэлёдыю галава Генрыха Мана.

Тамсама, на Фрыдрыхштрасэ, ёсьць плот зь дзіркаю. Праціснуўшыся праз яе, апынаесься на пустцы, дзе стаіць дом, які, магчыма, спадабаўся б Мірэле, бо над ім учынілі вівісэкцыю: адна сьцяна абрынутая, і вачом адкрываюцца ўсе куродымныя тайніцы ягонага чэрава. Каля дому расьце «дрэва» — стаўбур з бляшаных валасьцёкавых трубаў і галіны з галінкамі з разматых скарлючаных трубак і дроту. Краявід пусткі выдатна дапаўняе высозная «кветка» зь бітага шкла й іржавага жалезьзя. Гэтай расьліне пасуе кампанія зацягнутых у чорную скуру хлопцаў з голенымі галовамі, якая смокча ў засені шкляных пялёсткаў бляшанкавае піва. Мусіць, я ўсё-ткі ня надта падобны да турка, аднак, мяркуючы па позірках хлапцоў, мне хочуць прапанаваць зусім ня піва.

Ва ўсходнім Бэрліне, здаецца, пакуль няма пісуараў са смарагдавымі або аквамарынавымі каменьчыкамі, але ёсьць і свае перавагі ў выглядзе хай сабе й рэдкіх, ды ўсё ж дармовых прыбіральняў і яшчэ больш рэдкіх тэлефонаў-аўтаматаў, зь якіх можна затэлефанаваць, не ўстаўляючы туды адмысловае карткі, а проста — пяцьдзесят пфэнігаў. Каб ня гэты рэлікт сацыялізму, на вуліцы адчуваў бы сябе круглым сіратою.

**Вуліца *Unter den Linden* (Пад Ліпамі) у гэтыя дні як ніколі адпавядае сваёй назьве, бо па ёй плыве амаль відочная рака мядовага паху. У завоіне на ганку опэрнага тэатру ўладкаваўся духавы квартэт. Англамоўная публіка накшталт мяне можа даведацца з жаласнага плакаціку, што гэта *poor students from St.Peterburg*. Медзякі ў футаралах сьведчаць, што эканамічнае становішча бедных студэнтаў з Паўночнай Пальміры бэрлінцы ўспрымаюць прыкладна так, як нейкую прыродную зьяву.**

Капіталістычныя каты выйшлі на ганак, каб памахаць мне на разьвітаньне хвастамі, і вось ужо капітан вішнёвага *BMW* гер Хельмут Ноак другую гадзіну мужна прабіваецца да вакзалу праз таросы бэрлінскіх вуліцаў. Месца штурмана, нягледзячы на нядаўні сардэчны прыступ, адважна займае спадарыня Ядзьвіга. Дзень не сказаць каб звычайны — 22 чэрвеня.

Толькі каля вагону я даведваюся, што сёньня ў гера Хельмута дзень нараджэньня. Значыцца, за мною падарунак і калі-небудзь трэба будзе зноў браць квіток у міжнароднай касе.

З Бэрліну да Польшчы цягнік ідзе ўсяго гадзіну. Па дарозе на Варшаву на сьценах чыгуначных брандмаўэраў усё часьцей сустракаецца імя Валэнсы. За польскага прэзыдэнта можна было б парадавацца, калі б зь ягоным імем не суседзілі застрашлівыя абяцанкі, у якіх ганаровае месца займае шляхетны палітычны тэрмін — *dupa*.

Зрэшты, гэта праблемы суседняе дзяржавы. У нашай жа, часткаю якое ёсьць мой вагон «Бэрлін—Менск», за тыдзень таксама адбыліся сякія-такія зьмены. Правадніцы папрыгажэлі, і, напэўна, з гэтае прычыны шклянка гарбаты з цукрам каштуе ўжо не 12, а 35 рублёў. Затое гарбаты — хоць заліся, бо адна правадніца прыпадае ў сярэднім на 1,5 пасажыра. Выглядае, што хутка наогул будзем падарожнічаць парамі.

*Чэрвень, 1993 г.*





© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# ЭЎРАПЕЙЦЫ

**• Richard Hill, «We Europeans», Europublications, Brussels 1992, p. 354, ISBN 90-74440-01-0**

Кніга, пра якую я зьбіраюся напісаць, ставіць перад сабою амбітную мэту характарыстыкі народаў, якія твораць геаграфічна-культурную фармацыю, што называецца «Эўропай», у тэрмінах г. зв. тыповых рысаў. Такое паняцьце мэтадалягічна сумлеўнае, асабліва калі прымяняецца ў абсалютнай форме (напр. «кожны шатляндзец скупы, кожны паляк легкадумны»), тым ня менш яно аблягчае арыентацыю ў разнастайнасьці звычаяў на нашым кантынэнце. Можна дапусьціць, што найбольш удалым адпаведнікам паняцьця «нацыянальны характар» з крыху расісцка-дэтэрміністычным прысмакам было б акрэсьленьне «нацыянальнае *savoir-vivre*», бо тут гаворка йдзе хутчэй пра рэфлексы й шкалу вартасьцяў, набытыя праз выхаваньне, а не пра генэтычную спадчыну. У кожным разе застаецца фактам, што йснуюць пэўныя тыповыя групавыя мадэлі паводзінаў. Інакш жарты, прыведзеныя аўтарам ва ўступе, не былі б ні зразумелымі, ні забаўнымі. Вось два дзеля прыкладу. Што ёсьць неба й што пекла? Неба — месца, дзе паліцыя брытанская, кухары французскія, мэханікі нямецкія, каханкі італійскія, а ўсё заладжана швэйцарцамі. Пекла: кухары — брытанцы, мэханікі — французы, паліцыянты — немцы, каханкі — швэйцарцы, а арганізавалі ўсё італьянцы. Якім мусіць быць ідэальны супрацоўнік у міжнароднай эўрапейскай фірме? Ён павінен мець брытанскае пачуцьцё інтэрнацыяналізму, францускую сьціпласьць, нямецкую абаяльнасьць, бэльгійскі стыль кіраваньня аўтамабілем, гішпанскі лінгвістычны талент, галяндзкую шчодрасьць, швэйцарскую рахманасьць, скандынаўскую кемнасьць і грэцкую тактоўнасьць.

Аўтар кнігі ангелец, які ўжо колькі гадоў жыве ў Брусэлі, г. зн. у горадзе-сядзібе Супольнага Рынку, і паводле прафэсіі — communications specialist (на практыцы: пасярэднік у перамовах паміж фірмамі) — мае шмат кантактаў зь людзьмі розных нацыянальнасьцяў. Ведама ж, ягоная кніга — ня першая на гэтую тэму (Хіл сам часта спасылаецца на папярэднікаў: Luigi Barzini, The Europeans, London 1983 і Flora Lewis, Europe — A Tapestry of Nations, NY 1987), і не апошняя. Яна аднак цікавая тым, што падае даволі добры вобраз актуальнага сярэдняга зрэзу назіраньняў, стэрэатыпаў і спробаў іх перагляду ў галіне, якую можна было б назваць «агульнай этнасацыялёгіяй».

Праца складаецца зь 10 разьдзелаў, але найважнейшы зь іх (і найдаўжэйшы — больш за 150 старонак) — аднайменны з назовам кнігі разьдзел 3, «Мы эўрапейцы». Само ўпарадкаваньне разгляданых у ім нацыяў дае ўяўленьне пра сучасную ацэнку іх якаснае вагі й ролі ў Эўропе. Парадак гэты такі (характарыстыка за працяжнікам — аўтарская спроба ўхапіць адпаведную «нацыянальную сутнасьць»): брытанцы — сэнтымэнтальнае грамадзтва; французы — дапытлівыя індывідуалісты; немцы — мэтадычныя містыкі; гішпанцы — эгацэнтрычныя эгалітарысты; італьянцы — прыроджаныя эстэты; бэльгійцы — апартуністы без забабонаў; галяндцы — дэмакратычныя дагматыкі; швэйцарцы — хітрыя пацыфісты; аўстрыйцы — сэнтымэнтальныя шызафрэнікі; кельцкае ўзбочча (г. зн. ірляндцы, шатляндцы, валійцы) — дзівосная зьява на Захадзе; нардычныя народы — нясьмеласьць і сацыяльныя экспэрымэнты; партугальцы — пасыўныя рамантыкі; грэкі — інтэлігентныя імправізатары; славяне — культурная трасянка. Дадамо адразу: аўтар сам прызнаецца, што падзел гэты мае характар хутчэй тэрытарыяльны й культурны, а ня сьцісла антрапалягічны або моўны (напр. у «славяне» трапляюць таксама вугорцы, румыны й балтыцкія краіны).

Было б, зразумела, нудна рэфэраваць высновы Хіла група за групай, таму я абмяжуюся кароткімі камэнтарамі й адвольнымі цытатамі.

Пачну ад таго, што акрэсьленьне ангельцаў і прылеглых да іх назовам «сэнтымэнтальнага грамадзтва» здаецца мне крыху дзіўным. Хіл тут напэўна мае на ўвазе шматразова падкрасьляны ім факт, што на брытанскай шкале вартасьцяў паняцьце «якасьці жыцьця» ўсё яшчэ дамінуе чыстае (?!) «багацьце». Пад «якасьцю» ён разумее ня столькі экалягічныя вартасьці (хоць лічыцца й зь імі), колькі пытаньні вызначнікаў статусу чалавека ў грамадзтве. Асноўным гэткім вызначнікам у Ангельшчыне застаецца клясавая прыналежнасьць, якая — у адрозьненьне ад такіх краінаў як Бэльгія або Швэйцарыя (між іншым кажучы, аўтарава *bête noire*) — ня мае выключна матэрыяльнага характару; брытанскую «клясу» акрэсьлівае цэлая гама няўлоўных элемэнтаў, зь якіх найважнейшыя — акцэнт (або паказьнік адукацыі), адзеньне й паходжаньне. Другою рысаю «якасьці жыцьця» аўтар лічыць прывязанасьць брытанцаў да паняцьця *fairness*, прыняцьце пад увагу інтарэсаў іншых. На яго думку, якраз гэта спрычынілася да пашырэньня стэрэатыпу «брытанскае крывадушнасьці»: традыцыйнае выхаваньне, якое патрабуе стрыманасьці ў ацэнках і беражлівасьці да пачуцьцяў іншага чалавека вядзе да таго, што калі мерка перабіраецца й нейкі ангелец нарэшце кажа што думае, яго папракаюць за тое, што ўвесь час дагэтуль ён быў аблуднікам. З другога боку Хіл не ідэалізуе сваіх суродзічаў; ён закідае ім, што наколькі ўражлівыя яны ў індывідуальных кантактах, нагэтулькі ж выяўляюць незвычайную культурную нячуласьць у сэнсе ўпартага выпукленьня свае апрычонасьці. З гэтае нагоды немцы кажуць пра ангельцаў: «Паўночныя сіцылійцы».

Пераход ад «брытанцаў» адразу да «французаў» апраўданы сярод іншага тым, што гэтыя народы адвеку выяўляюць адзін да аднаго клясычную *Hassliebe*, або спалучэньне антыпатыі з захапленьнем. З шмат якіх гледзішчаў яны, як здаецца, супрацьлеглыя адзін аднаму: ангельскай стрыманасьці Хіл супрацьстаўляе францускую напорыстасьць (ветлівае азначэньне нахабства) і схільнасьць «павыстаўляцца»; брытанскай недаверлівасьці да празьмернага тэарэтызаваньня — тое, што французы называюць «картэзіянствам», а староньні сацыёляг (Тэадор Зэльдзін) называе «бліскучай інтэлігентнасьцю пры нястачы здаровага розуму».

Францускае пачуцьцё вышэйшасьці выяўляецца як індывідуальна (ненавідзяць прызнаваць свае памылкі), гэтак і калектыўна (*gloire de la patrie*, што пераходзіць у адкрыты шавінізм); адзін з пабочных прадуктаў такой пазыцыі — пасьпяховае высьмейваньне на міжнароднай арэне сваіх суседзяў, а менавіта паўдзённых (італьянцаў) і паўночных (бэльгійцаў). Дзеля раўнавагі Хіл падае меркаваньне аднаго бэльгійскага бізнэсмэна пра яго францускіх партнэраў: «яны нахабныя, стыль вельмі квяцісты, шмат пустых абяцанак, часта яны дрэнна падрыхтаваныя да перамоваў і — што дзіўна — зусім не такія добрыя ў падрахунках». Той самы бэльгіец прызнаў аднак за французамі інтэлектуальную адкрытасьць, асабістую абаяльнасьць і пачуцьцё гумару (дадамо: тавары крыху дэфіцытныя на радзіме аўтара меркаваньня) [...]

Каб занадта не занудзіць чытачоў, перш чым перайсьці да цікавейшых нам пазыцыяў «немцы» й «славяне», падам тут жменьку разынак, выбраных з кнігі наўдачу, якія датычаць іншых апісаных у Хілавай кнізе братоў-эўрапейцаў.

«Італьянцы»: «заўсёды вызначаліся ў галінах, дзе найважнейшая рэч — выгляд: [некалі] архітэктура, дэкарацыя, паркі, пластычнае мастацтва, відовішчы, фэервэркі, цырымоніі й опэра, а сёньня — прамысловы дызайн, штучная біжутэрыя, мода й кіно» (цыт. паводле L.Barzini, The Italians, NY 1964).

«Бэльгія»: інструкцыя для пілота, які першы раз ляціць зь Нью-Ёрка ў Брусэль: «Паляціш на ўсход, пакуль не пабачыш зямлю — гэта будзе Эўропа; пасьля пабачыш вяроўкі, а на іх сушыцца толькі што вымытая туалетная папера — гэта Галяндыя; там павернеш направа і адразу сядай — гэта будзе Бэльгія».

«Гішпанія»: «Адна з апошніх краін у Эўропе, дзе людзі цэняцца не паводле таго, што маюць, а паводле таго, хто яны ёсьць; там беднасьць ня лічыцца аўтаматычна ганьбай, а на багатых ня дзівяцца безаглядна...»

«Швэйцарыя»: «Яны практычныя — а значыць вераць ва ўтульнасьць і бясьпечнасьць» (Хіл); «фашыстоўскі Дыснэйлэнд» (Хілаў знаёмы, між іншым немец); закон і парадак — нібыта аўтэнтычны выпадак: з увагі на абавязковае захаваньне цішыні ўночы вясковая рада ў нейкай мясцовасьці загадала пастухам здымаць каровам званкі паміж 8-ай вечара і 7-ай раніцы.

Тое самае + «Аўстрыя»: «Аўстрыйская душа — гэта Mozartkugel [шакалядная цукерка з партрэтам Моцарта], а адметнасьць швэйцарца — банкавая таямніца» (нейкі д-р Франц Шу).

«Швэцыя»: «Пасьля стварэньня вельмі цікавай грамадзкай формы, якая ў часе канфлікту капіталізму з сацыялізмам звалася Трэцяй Дарогай, сёньня яны, як здаецца, лічаць яе занадта нудный або занадта дарагой. Высокія падаткі спарадзілі падыход да працы «адсюль і дасюль», які дзякуючы доўгаму адпачынку й разнастайным магчымасьцям забаўляньня закараніўся так глыбока, што пра яго адміраньне няма й гаворкі. Да адзначаных магчымасьцяў залічаюцца сярод іншага прыгожыя дзяўчаты, што магчыма тлумачыць вялізную колькасьць італьянскіх і грэцкіх аўтамэ-

*Працяг на старонцы 16*

# СЮРПРЫЗ - ВЕЧАРЫНКА Ў

Барыс Віян




Павекі Фалюбэра Сансанэта, у якія напрасткі біў зыботкі сонечны прамень, што ўварваўся праз шчыліну ў ваканіцах, мелі знутры прыгожы чырвона-аранжавы колер, і Фалюбэр усьміхаўся праз сон. Ён ішоў павольным крокам па сьветлым, мяккім і цёплым жвіры ў садзе Геспэрыдаў, і ласкавыя шаўкавістыя жывёлы лізалі яму пальцы на назе. У гэты момант ён прачнуўся; зь вялікага пальца на назе ён асьцярожна зьняў Фрэдэрыка, свойскага сьлімака, і наставіў яго на наступную раніцу. Фрэдэрык чмыхнуў, але нічога не сказаў.

Фалюбэр сеў на ложку. Ён вырашыў пасядзець і падумаць, з самое раніцы, на цэлы дзень наперад, гэтак забясьпечыўшы сябе ад шматлікіх непрыемнасьцяў, якія выпадаюць на долю тых няпэўных і неспакойных, далёкіх ад парадку істотаў, якім найменшы іх рух здаецца зачэпкай для пустадумства (прабачце мне даўжыню гэтага сказу) без канца й бяз тэмы, бо яны пра яе забываюць.

Яму трэба было падумаць:

1. Пра тое, як ён будзе прыбірацца;

2. Пра тое, як ён будзе харчавацца;

3. Пра тое, як ён будзе забаўляцца.

І ўсё, бо якраз была нядзеля, а значыць здабыцьцё грошай было ўжо вырашанай праблемай.

І так Фалюбэр разважаў, у парадку чароднасьці, над гэтымі трыма пытаньнямі.

Ён старанна ўмыўся, бадзёра вычысьціў зубы й высмаркаўся ў пальцы; пасьля прыбраўся. Як і заўсёды ў нядзелю, ён пачаў з гальштука й кончыў чаравікамі, гэта было цудоўнае практыкаваньне. Ён узяў з шуфляды пару модных шкарпэтак з палоскамі: адна сіняя, тады няма палоскі, зноў сіняя, зноў няма, і гэтак далей. Гэтая новая мадэль шкарпэтак дазваляла маляваць ногі ў любы колер, які б займаў пусткі паміж сінімі палоскамі. Ён пачуваўся нясьмела й таму выбраў бляшанку зь сьветла-зялёнаю фарбаю.

Што да астатняга, дык ён надзеў сваё штодзённае ўбраньне, сінюю кашулю й чыстую бялізну, бо ён думаў пра па-трэцяе.

Ён пасьнедаў забітым селядцом у салодкім алеі з кавалкам хлеба і запіў гарбатай з кубачка, поўнага як вока, і, як вока, аздобленага даўгімі ружовымі вейкамі.

Нарэшце ён мог падумаць пра сваю нядзелю.

Сёньня быў дзень нараджэньня ў ягонага сябра Леабіля, і ў гонар Леабіля ладзілася цудоўная сюрпрыз-вечарынка.

Згадаўшы пра сюрпрыз-вечарынкі, Фалюбэр аддаўся доўгім летуценьням. Сказаўшы праўду, яго мучыў комплекс нясьмеласьці, і ён пакрыёма зайздросьціў адвазе дзённых практыкантаў: ён хацеў бы быць спрытны як Грузніе, запальчывы як Додзі, чароўна-элегантны як Рэманфоль, прывабна-суворы як шэф Абадзібаба, або па-пірацку бліскучы як любы зь сяброў Паўдзённа-Брэтонскага Клюбу.

Сам жа Фалюбэр меў прыгожыя каштанавыя вочы, крыху расплывістыя валасы й мілую ўсьмешку, з дапамогай якое ён здабываў усе сэрцы, сам пра тое не здагадваючыся. Але ён ніколі не наважваўся скарыстаць сваю прывабную зьнешнасьць і заўсёды заставаўся адзін, калі ягоныя сябры элегантна танчылі свінг, джытэрбаг і гальскія падскокі з прыгожымі дзяўчатамі.

Гэта часта навявала яму мэлянхолію, аднак уночы сны прыносілі яму суцяшэньне. Там ён раптам рабіўся адважным, яго абступалі дзяўчаты й прасілі, каб ён зрабіў ім ласку й запрасіў на танец.

Фалюбэр прыгадаў сон, які сасьніў гэтай ноччу. У ім была вельмі прыгожая асоба ў сукенцы з мохавага крэпу колеру сіняй лаванды, сьветлыя валасы спадалі ёй на плечы. На нагах у яе былі маленькія туфлікі зь сіняе зьмяі, а на руцэ дзівосная бранзалетка, якую ён ня мог дакладна апісаць. У сьне яна вельмі яго кахала, і ўрэшце яны разам некуды пайшлі.

Напэўна ён яе цалаваў, і можа нават яна згадзілася надарыць яго нейкімі дадатковымі пяшчотамі.

Фалюбэр пачырванеў. Яму хопіць часу падумаць пра гэта, ідучы да Леабіля. Ён памацаў у кішэні, праверыў, што там дастаткова грошай, і выйшаў купіць бутэльку атрутнага апэрытыву найтаньнейшае маркі, бо сам ён ніколі ня піў.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010





Шаноўая спадарыня НН!

Ваш адказ спадару В.А. з Мугулёва ("НН" №14) змушае мяне ўхапіцца за абсадку ды сказаць, што спадар з Мугулёва мае рацыю ўжо хоць бы таму, што Вы яе ня маеце. Бо каб жа мелі, дык, «падвышаючы кола беларускай сьвядомасьці», што выглядае «элітарна-вузка», маглі пайсьці на «ўступкі масавасьці», зблізіцца з народам, які ня толькі гной растрасае, але ж яшчэ й мудры. Ну што ж бо Вы падвысілі «стылістычнымі аблудамі», калі герой Вашай публікацыі выкаблучываецца, бы вош на шкліне: «Элеанора, зрабі ласку, прымі матрыманіяльную позу». А ці ня лепей бяз гэтых маргіналій: «Элеанора, зрабі ласку, стань ракам»? — і проста ж, бы хвост у кручанага сабакі, і даступна як элітарнаму так і паспалітаму колу, і ўкусу здаровага пропадзь! Глядзеце ж бо, як сьпявае народ верш народнага ж паэта, усяобшчага любімца музаў: «А я лягу-прылягу, ногі ўшыркі раскіну...» — поза, здавалася б, просьценькая, а таксама красіва! Да сэрца, да горла дастае!

Я — паэт з народу й работаю ў народным ключы, хоць высокая філязофія й мне ня чужда. Вось мой пераклад верша Гётэ. Ужо хто-хто, а калі Ёган Вольфганг не эліта, дык Вы, спадарства, паразьядаліся ў Вашых Вільнях! Дык вось ён таксама не цураўся народу.

У вершы цудоўны сымбіёз элітарнасьці й масавасьці. Царква, боскасьць, духоўнасьць, саборнасьць! — гэта эмпірэі, так бы мовіць, Бах з арганам і клавікордамі, трагедыі Озерава — для эліты, для выбраных і пакліканых, для нас з Вамі, спадарыня «НН». А жабная ежа — гэта зьбіцень для люду простага, пра які гаварыў Астроўскі, ды ня наш, а той, з маскалёў каторы. Бусел (вар.: бацян) — птушка сложная, працiварачывая, у беларусаў сьвяшчэнная: «няхай жыве й пасецца беларуская птушка бацян» — выслоўліваецца народ. Такая вось алягорыка палучаецца.

Але які пірог бязь ягадкі! Перакладчыкаў узровень найбольш яркі ў фінале, расшалопаць які, пабажуся, нават ваша элітарная публіка ня здолела б зь першага нахрапу. Таму слова-другое камэнтару.

Вы, канечне, ведаеце, што літара S — гэта знак хімічнага элемэнту сера з пэрыядычнай сыстэмы Мендзялеева, табліцу для якое хімік выдумаў ужо пасьля сьмерці Гётэ. Ужываючы гэты сымбаль, перакладчык як бы падвышае інтэлект вялікага германца, які такім чынам запабягае будучыя адкрыцьці ў навуцы. Такое сьвядомае вылучэньне паэта ў праpокі яму дажа мёртваму пальсьціт! Сам мастацкі прыём перахоплены ў таго ж Гётэ, які любіў дзеля далікацтва замяняць нямецкай літарай H ("аш") каларытнае народнае слова Arsch ("арш" — дупа, срака) — такі вясёлы фанэтычны калямбурчык палучаецца.

А цяпер, калі я траха прачыніў дзьверы ў маю творчую лябаляторыю, насладзіцесь вершам, пераклад якога я прысьвячаю духоўна блізкаму мне спадару В.А. з Мугулёва, чалавеку са здаровымі прыроднымі інстынктамі, які далікатна патрабуе ад Вас адпаведнай ягоным густам, выпрабаванай і прывычнай позы, а Вы ўсё не дакумекаеце, усё матрыманіяльнічаеце: «ах, пачатак стагодзьдзя, ах, толькі на цьвёрдым грунце, ах, філязофія свабоды!»

Шануючы Вас, Ваш даўні сымпатызант

В.С., спадарок з Пружаное

## ПАКЛІКАНЬНЕ БУСЛА

**Ёган Вольфганг Гётэ**

Глядзіш, — і дзіўна, і няўцям,
Чаму на храмнай вежы
Буслоўку ўлаштаваў бацян,
Спажыўца жабнай ежы?

Клякоча грэбліва згары,
З вышынь сьвятых сабора,
І ні малы, і ні стары
Адтуль яго ня спора.

На чым жа цьвердзіцца, пардон,
Яго мараль і вера? —
З тэндэнцыяй пахвальнай ён
На дах царкоўны S.



# ЛЕАБІЛЯ

У тую хвіліну, калі Фалюбэр прачнуўся, Маёр, патурбаваны ў сьне сіплым голасам свайго неспакойнага сумленьня, прызямліўся на ліпучы паркет у сваім пакоі з прысьмердам паскуднага таннага віна ў роце.

Яго шкляное вока зладесна блішчала ў паўзмроку, асьвятляючы гнюсным водбліскам шыйную хустку, якую ён якраз пачаў размалёўваць; малюнак, які напачатку ўяўляў сабою зачэпку, што пасьвілася сярод братоў зялёных-лугоў, набыў цяпер выгляд мёртвай галавы вэнэцыянскага маўра, і Маёр зразумеў, што сёньня яму выпадала ўчыніць зладзейства.

Ён згадаў пра сюрпрыз-вечарынку ў Леабіля й дзіка ўхмыльнуўся у рэ-дыезе, з адной фальшывай нотаю, што красамоўна сьведчыла пра яго незайздросны стан. Угледзеўшы вялікую бутэльку чырвонага, ён прыкончыў адным глытком цёплую муць, што прыкрывала дно, і адчуў сябе лепей. Пасьля, устаўшы перад люстэркам, ён паспрабаваў зрабіцца падобным на Сяргея Андрэева Папаніна ў Іване Грозным. Нічога ня выйшла, бо яму не ставала барады. Тым ня менш, вынік быў даволі добры.

Маёр зноў ухмыльнуўся й адыйшоў у свой працоўны кабінэт, каб падрыхтаваць шкодзтва для сюрпрыз-вечарынкі ў Леабіля, якому ён марыў адпомсьціць. І сапраўды, Леабіль ужо колькі тыдняў распускаў пра Маёра самыя непрыстойныя чуткі, аж да таго, што пачаў сьцьвярджаць, нібыта ён, Маёр, стаўся сумленным чалавекам.

За гэта варта было пакараць як сьлед.

Маёр вельмі добра ўмеў прымусіць маліцца аб літасьці ўсіх ворагаў, якіх яму даводзілася сустракаць на сваёй дарозе — з аднаго боку дзякуючы даволі дрэннаму выхаваньню, з другога боку дзеля яго натуральных крывадушных схільнасьцяў і падпрыродпае хітрасьці.

(Нельга абмінуць і ягоныя гідкія вусы, якія ён распусна галаваў пад носам, бароначыся ад нападаў інсэктаў і закрываючы іх удзень сетачкай, каб да іх не дакрапаліся птушкі.)

Фалюбэр Сансанэт спыніўся ў хваляваньні перад Леабілевымі дзьвярыма і сунуў указальны палец правай рукі ў норку званка, які ляжаў скруціўшыся клубком і спаў.

Фалюбэраў рух абудзіў яго, ён падскочыў, павярнуўся й балюча ўкусіў Фалюбэра за палец, так што той загаласіў на высокіх танох.

Зараз жа Леабілева сястра, што чуйнавала ў калідоры, адчыніла, і Фалюбэр увайшоў. На дарозе Леабілева сястра заклеіла яму рану кавалкам плястыру й вызваліла яго ад бутэлькі.

Акорды прайгравальніка вясёла грымелі пад столлю кватэры й агортвалі мэблю лёгкім слоем музыкі, які рабіў яе сьвятлейшаю й ахоўваў ад шкоды.

Леабіль стаяў перад камінам і гаварыў зь дзьвюма дзяўчынамі. Пабачыўшы другую, Фалюбэр захваляваўся і, пакуль Леабіль ішоў яму насустрач з выцягнутай рукою, мусіў хаваць сваю зьбянтэжанасьць.

— Добры дзень, — сказаў Леабіль.

— Добры дзень, — адказаў Фалюбэр.

— Пазнаёмся, — сказаў Леабіль, — Азіма (гэта была першая дзяўчына), гэта Фалюбэр, а гэта Джэніфэр.

Фалюбэр пакланіўся Азіме й апусьціў вочы, падаючы руку Джэніфэр. На ёй была сукенка з мохавага крэпу чырвона-сіняга колеру, туфлікі з чырвонае зьмяі і вельмі незвычайная бранзалетка, якую ён адразу пазнаў. Рыжыя валасы спадалі ёй на плечы, і яна ва ўсім была падобная на дзяўчыну зь ягонага сну; натуральна, цяпер колеры былі ярчэйшыя, але гэта нармальна, бо ж сны сьняцца ўночы.

Леабіль, як выглядала, быў вельмі заняты Азімай, і таму Фалюбэр не адкладаючы запрасіў Джэніфэр. Ён усё яшчэ ня мог падняць вачэй, бо якраз перад ім два надзвычай цікавыя аб'екты вабілі позірк з-пад квадратнага дэкальтэ, якое дазваляла ім вольна дыхаць.

— Вы адзін з старых сяброў Леабіля? — спыталася Джэніфэр.

— Я знаёмы зь ім тры гады, — удакладніў Фалюбэр. — Мы пазнаёміліся на дзюдо.

— Вы займаецеся дзюдо? Ці вам ужо даводзілася біцца каб абараніць сваё жыцьцё?

— Ээ... — сказаў зьбянтэжана Фалюбэр. — Я ня меў нагоды... Я б'юся вельмі рэдка.

— Вы баіцёся? — іранічна пацікавілася Джэніфэр.

Фалюбэру вельмі не падабаўся кірунак размовы. Ён паспрабаваў вярнуць сабе сваю начную адвагу.

— Я вас сьніў... — сказаў ён наўдачу.

— Я ня сьню ніколі, — сказала Джэніфэр. — Мне гэта здаецца малаверагодным. Напэўна, вы нешта паблыталі.

— Вы былі сьветлавалосая... — сказаў Фалюбэр на мяжы адчаю.

Яна была вельмі зграбная, і яе вочы сьмяяліся, зусім побач.

— Бачыце, — сказала Джэніфэр, — гэта была ня я... я рыжая...

— Гэта вы... — прашаптаў Фалюбэр.

— Ня думаю, — адказала Джэніфэр. — Я не люблю сны. Я больш люблю яву.

Яна паглядзела яму ў твар, і ён зноў мімаволі апусьціў вочы. Ён не прыціскаў яе да сябе, бо інакш яму нічога не было б відаць.

Джэніфэр паціснула плячыма. Яна любіла спорт і дужых адважных хлопцаў.

— Я люблю спорт, — сказала яна, — і я люблю дужых адважных хлопцаў. Я не люблю сны, я жыву ў яве.

Яна адыйшла, бо кружэлка спынілася з жахлівым скрыгатам тармазоў, бо Леабіль не папярэдзіўшы зачыніў шлагбаўм. Фалюбэр падзякаваў. Ён хацеў затрымаць яе

*Працяг на старонцы 14*



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# АД АПЭЛЬСІНАЎ ДА МАЛЕНЬКІХ ЯБЛЫЧКАЎ: АМАЛЬ

Мэва Марон

Набярэжныя ўздоўж Ліфі. Паўдзённы бераг, выходжу. А пятай, ці хутчэй а шостай увечары... Павольна, як сьлімак. Занядбаныя будынкі: хмызьняк спрабуе вырасьці там, дзе некалі былі другія паверхі. Побач з мастом паміж Кэйпл стрыт і Парлямэнт стрыт двухпавярховы аўтобус прапануе пасажырам наверсе выгодны спазор на рэльеф, на якім фармэры, апранутыя ў свабодныя бэзавыя, зялёныя й пунсовыя апранахі — таўкуць вінаград? Здаецца, як далёка ад бульбы й Гінэсу. Аўтобус едзе далей. Зарана. Яму спатрэбілася поўгадзіны, каб даехаць ад Ходжыс Фігіс (усё яшчэ найлепшае кнігарні *новых* кніг у Дубліне, з найлепшай букіністычнай крамай за рогам) да Брамы Трыніты — адлегласьць, якую я магла б прайсьці за дзьве хвіліны. Але цяпер я хачу спыніцца й паглядзець.

Запозна. Ліфі лена плыве малой вадою паміж зялёнымі глейкімі мурамі. Што я тут раблю? Калі я магла б быць у гарах і зьбіраць чарніцы (гэта быў удалы год на чарніцы!), як учора? «Купляйце ірляндзкае», кажа афіша, а побач зь ёю — «Шэлбурн Ф.К.— Карпаты Львоў». Ня Lviv, а Lvov. Гэтых афішаў шмат, больш чым на канцэрт U2. Але ўсе ведаюць пра U2... А ў наступную серада Ірляндыя—Літва. Я ня бачыла такіх чарніцаў з канца сямідзясятых на поўдні Польшчы: і ня ў Татрах, а ў Судэтах, дзе яны растуць на кустох, а ня ў ямах сярод верасоў, і як зьбіраеш — лётае пылок... Будынак з пастаральным рэльефам зваўся «Сонечным Домам».

Сьляды іншага Дубліну, як Чатыры Суды, што вылучаюцца сярод занядбаных фасадаў на дальнім беразе ракі. Розныя пласты найбольш уражваюць (калі пасьпееш гэта заўважыць) на дарожных знаках: 5 міляў да Чэплізоду й 13 да Келбрыджу, кажуць старыя надпісы, 8 км і 21 км — новыя. Гаворка не пра ірляндзкую мілю, тысячу шырокіх крокаў. Аднак мілі не пазначаныя як мілі, проста трэба вызначыць, ці стары гэты знак; гэта не відаць з альфабэту, бо яны яшчэ не такія старыя, прынамсі побач з Дублінам... 5, 8, 13 і 21: рад Фібаначы працягваецца ў мяне ў думках, закручваецца ў лягарытмічныя спіралі, сьлімаковыя ракавіны, узоры зярнятак у галоўцы сланечніку...

«Айрыш Таймз»: Сто галоў таму памёр Джон Тындал, чалавек, які паказаў, што неба сіняе, таму што сьвятло расьсейваецца малекуламі паветра, яны расьсейваюць больш сіняга сьвятла, чым жоўтага (у залежнасьці ад даўжыні хвалі ў чацьвертай ступені, калі хочаце ведаць), знайшоў кісларод у азоне й адкрыў цяплічны эфэкт — квакер з Карлоў, які ўступіў у Ваенна-Тапаграфічную Службу (якая робіць карты й называе мясцовасьці), вывучаў хімію ў Марбургу, напісаў працу аб вінтавых паверхнях... Вярнуўшыся, забраўся ў Альпы, з горных вяршыняў неба выглядала яшчэ сінейшым, і дасьледаваў ледавікі — ледазнаўчыя падручнікі дагэтуль называюць нэгатыўныя крышталі вадкіх поласьцяў у лёдзе «Тындалавымі кветкамі», лістападобныя фігуры, растопленыя пад паверхняю інфрачырвонай радыяцыяй. Экалягісты сустракаюцца сьвяткаваць ягоныя ўгодкі. Іншая афіша: *John Malcovitch* і *René Russo* разам з Клінтам Іствудам у фільме «На лініі агню». John Malcovitch: Іван Мальковіч, калі вярнуць яго, або ягонае ймя, да каранёў. Іван Мальковіч, украінскі паэт, які напісаў «Парады вясковага настаўніка»: «Беражыце сьвечку літары «і»... Кажуць, мы гаворым салаўінаю моваю — але не перакладай усяе працы на птушак, мой сыне». Або нешта гэткае. René (ад-роджаны) Russo можна пакінуць чытачам як практыкаваньне ў перакладзе.

Літара «і»... Яна нагадвае мне пра кнігі ў маёй торбе. «Апэльсіны», выбраныя вершы Габрыэла Роўзэнстока, бясспрэчна самага пладавітага паэта з тых, што пішуць па-ірляндзку. «Я адкрываю мой верш яркім рэчам / у яго прыходзяць апэльсіны й дзьмухаўцы...» Майстар на кідкія назовы: «Партрэт мастака як Жахлівага Сьнежнага Чалавека», «Nihil Obstat», «ОМ», «Сюзана ў лазсніцы» — аднак чамусьці ў букіністычных кнігарнях, як здаецца, заўсёды поўна ягоных кніжак. Творы зь лёгкім адценьнем дзэну, аднак часам назовы могуць крыху зьбіць з тропу: ня толькі «Хропат і Румі» (ня ром, а паэт, увага, рэдактар!), але й «Бхагаван Шры Сацья Саі Баба», «Бхаджан» («паўтаральная музычная форма, якая дазваляе *бхакту* «верніку» *бхаджаваць* або сьпяваць імя Бога, якога кожны паасобку мусіць дасягнуць асабіста, а не праз сыстэматычны апарат, кантраляваны сьвятарамі», як гаворыцца ў кнізе пра (постмадэрнісцкае) індыйскае стаўленьне да ангельскае мовы, на якую я да наступнага месяца мушу напісаць рэцэнзію)...

Мой сусед захоплены чытаньнем кнігі пра тэорыю рэклямы, пра продаж рулёнаў прыбіральнай паперы з дапамогаю рэклямных ТВ-кліпаў, дзе лялька разгортвае рулён і заблытваецца ў паперы. Я адчуваю, што мне лепей схаваць мае «Апэльсіны», асабліва дзеля таго, што я іх купіла з кучы кніжак, што прадаваліся да непрыстойнасьці танна (значна таньней, чым сёньняшнія газэты), гэтая кніга відавочна ня з тых, якія можна чытаць у аўтобусе на Чэплізод. Зноў «Айрыш Таймз», пра страчаны зрок Дугласа Хайда. Стагодзьдзе Гэльскай Лігі, натхнёнай «Неабходнасьцю дэанглізацыі Ірляндыі», паводле якое ірляндзкая мова была адзіным спосабам самапавагі, самаўпэўненасьці, не раўнуючыся з «задрыпонскай асыміляцыяй» правінцыялаў. Аднак незалежнасьць зрабіла з мовы цяжар, які дзяржава складае на плечы школьнікам, тым часам як функцыю «уніфікатара» пераняла Каталіцкая Царква...

Ліст у рэдакцыю абураецца, што на канвэртах першага дня юбілейных марак няма ні слова па-ірляндзку апроч самога *«Conradh na Gaeilge»*. На аўтобусе, што спыніўся побач з нашым, ёсьць прынамсі рэкляма кока-колы па-ірляндзку: *«Ní feidir a mothú a shárú»*. Не пераўзыйдзеш смаку? Не прапусьці пачуцьця? Прыхільнік Гінэсу не чытае рэклямаў кока-колы — але мне цяпер давядзецца ўзірацца на аўтобусы, шукаючы ангельскі пераклад, наўмысна (?) складаная канструкцыя, два падобныя з выгляду кампанэнты, якія патрабуюць у перакладзе зусім розных часьцінаў мовы. Сьмешна! Ужываць ірляндзкую мову, каб людзі зацікавіліся рэклямай кока-колы — ці б мог калі Дуглас Хайд спадзявацца на такі посьпех?! (А вось значна больш практычнае — а ня толькі сувэнірнае — выкарыстаньне мовы: надпіс у

# СЮРПРЫЗ - ВЕЧАРЫНКА Ў ЛЕАБІЛЯ

*Працяг са старонкі 13*

ўмелай чароўнай размовай, аднак у той самы момант, як ён зьбіраўся знайсьці які-небудзь сапраўды чароўны выраз, нейкі вялізны й жахлівы бамбіза прасунуўся перад ім і схапіў Джэніфэр у свае грубыя абдымкі.

Фалюбэр у жаху адступіўся на крок, але Джэніфэр усьміхалася, і ён, зможаны, абрынуўся ў глыбокі фатэль з бурдзюковае скуры.

Ён зажурыўся, зразумеўшы, што й гэтая сюрпрыз-вечарынка будзе як і ўсе іншыя, цудоўная й поўная дзяўчат... але не для яго.

Леабілева сястра зьбіралася адчыніць дзьверы, але спынілася, агаломшаная, пачуўшы выбух. Яна стрымвала адной рукою біцьцё свайго сэрца, і брама паддалася пад ударам няшчаднай Маёравай нагі.



Той трымаў у руцэ пісталет, зь якога яшчэ віўся дымок, бо ён толькі што застрэліў званка. Ягоныя гарчычныя шкарпэткі абражалі ўсіх прысутных.

— Я убил эту галасьць, — сказаў ён. — Выкіньце труп.

— Але ж, — сказала Леабілева сястра.

І горка заплакала, бо званок жыў у іх так даўно, што быў ужо адным зь сям'і. Яна ў сьлязах пабегла ў пакой, а Маёр у захапленьні выканаў скок-у-змрок і паклаў пісталет у кішэню.

Насустрач выйшаў Леабіль. Поўны нявіннасьці, ён падаў руку Маёру.

Маёр паклаў у яе вялізнае сьвінства, якое падабраў перад уваходам у дом.

— Атайдзи, ты, — сказаў ён Леабілю нэрвовым голасам.

— Скажы... Толькі не пабі нічога...

— Я сичас всё паб'ю, — сказаў халодна Маёр, выскаліўшы зубы.

Ён падыйшоў да Леабіля й прасьвідраваў яму вачніцы нязносным позіркам свайго шклянога вока.

— Дак гавариш, што я работаю, ты? — сказаў ён. — Гавариш, што я станавлюсь чесны? Што ты сибе пазваляиш?

Ён глыбока ўздыхнуў і пачырванеў.

— Ты, твая вичиринка, можиш щитаць, што ана будзит чюць чюць ниабычная!..

Леабіль зьбялеў. Ён усё яшчэ трымаў у руцэ тое, што даў яму Маёр, і баяўся варухнуцца.

— Я... Я не хацеў цябе абразіць... — сказаў ён.

— Заткнись, ты, — сказаў Маёр. — За каждае лишнее слова будзет надбавка.

Тады ён прасунуў сваю правую ступню за Леабілевы ногі, моцна яго штурхануў, і Леабіль паваліўся надол.

Госьці нічога асаблівага не заўважалі. Яны танчылі, пілі й гаманілі, яны зьнікалі парамі ў вольных пакоях, як і на любой удалай сюрпрыз-вечарынцы.

Маёр пасунуўся да буфэту. Недалёка адтуль усё яшчэ прыгнечаны роспаччу Фалюбэр маркоціўся ў фатэлі. Праходзячы міма, Маёр падняў яго за каўнер пінжака й паставіў на ногі.

— Пайдзём выпьем, — сказаў ён яму, — я никагда ни пью адзин.

— Але... Я зусім ня п'ю...— адказаў Фалюбэр.

Ён крыху ведаў Маёра і не наважваўся пярэчыць.

— Ну, — сказаў Маёр, — канчяй базар!

Фалюбэр паглядзеў на Джэніфэр. На шчасьце, яна павярнулася зусім у іншы бок і захоплена размаўляла. На няшчасьце, што праўда, вакол яе стаялі трое хлопцаў, а яшчэ двое сядзелі каля яе ног, тым часам як шосты разглядаў яе забраўшыся на шафу.

Леабіль незаўважна падняўся і зьбіраўся цішком вышмыгнуць з пакою каб паклікаць сілу-захавальніцу-парадку, аднак ён разважыў, што калі згаданая сіла задала б сабе клопату зірнуць па пакоях, дык ён, Леабіль, мог бы прабавіць ноч у пастарунку.

Да таго ж, ён ведаў Маёра й ня думаў, што той даў бы яму выйсьці.

І сапраўды, Маёр назіраў за Леабілем і спыніў яго страшным позіркам.

Пасьля, усё яшчэ трымаючы Фалюбэра за каўнер, ён дастаў пісталет і, ня цэлячы, адстрэліў рыльца адной з бутэлек. Усе госьці спалохана азірнуліся.

— Валице атсюда, — сказаў Маёр. — Ану, мужики, валице; бабы могут астацца.

Ён падаў Фалюбэру шклянку.

— Ну, выпили!

Хлопцы пакінулі дзяўчат і пачалі разыходзіцца. Маёру не пярэчылі.

— Я не хачу піць, — сказаў Фалюбэр.

Ён паглядзеў на Маёраў твар і пасьпешліва выпіў.

— Тваё здаровье, мужык, — сказаў Маёр.

Фалюбэраў позірк раптам упаў на твар Джэніфэр. Яна стаяла зь іншымі дзяўчатамі ў кутку й глядзела на яго з пагардай. Фалюбэр адчуў, як пад ім слабеюць ногі.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# НЕЧЫТЭЛЬНЫЯ НАТАТКІ Ў АЎТОБУСЕ НА ЧЭПЛІЗОД

«Куінзуорце» на прылаўку з Шварцвальдзкімі пірагамі *The Baker's Kitchen / Cistin na Báicéara* («і» ў baker па-ангельску можна пачуць; ірляндзкая мова, будучы больш дакладнай, уключыла яго ў напісаньне)!)

Посьпех... Не відаць новых ірляндзкіх кніжак: гэта значыць, што іх раскупляюць, ці што іх увогуле няма? Раманы распрадаюцца, і пасьля іх гадамі не знайсьці, а паэзіі раскладзена шмат... Вось двухмоўны «Халодны Месяц» Роўзэнстока, кніга хайку, больш карцінкі, чым вершы. Адзінае, што я проста *мусіла* купіць — «Калі б птушка мела хвост» Шосава МакГрыны (Joe Green / Giuseppe Verdi), які прабавіў апошнія пяцьдзесят галоў свайго жыцьця ў вар'ятні пасьля прымусовай працы над перакладамі. Не перавыдавалася пасьля 1940; я нават ніколі пра яе ня чула. Адсутнае зьвяно паміж «Робінавым Хвастом» Шона О Рырданя й трылёгіяй пра дразда Шэймаса МакАны? — першы том якой — адна з кніг, якія немагчыма знайсьці. (Мы тут толькі дразды, а не салаўі!)

Вось чаму я зьбіраю цяпер гэтыя кнігі, якія я не даўмелася купіць, калі яны былі новыя. Накшталт Роўзэнстокавых перакладаў з флямандзкай / фрызкай / ідышу, ягонага ангельскага пераказу «шаманскага падарожжа» Дары О Конэла зь неверагоднымі йменамі галоўных шпёнаў — Кіеў і Габэ...

Але нарэшце мы рухаемся: францысканскі касьцёл Адама й Евы, мост праз Ліфі ў Чэплізодзе. Апошняя кніга, якую я падабрала ў «Дзьмухаўцы», бо ў ёй ёсьць пераклады з Рылькс, «Сінія й барвовыя гартэнзіі», здаецца больш тыповай для ірляндзкае літаратуры, чым Роўзэнсток. Першая кніга аўтара таксама адчынялася робінавым хвастом, аднак пасьля больш чым за дваццаць гадоў ён ніяк ня мог назьбіраць на другую. Здаецца, у яго скончыліся відзяжы. Апрача апакаліптычных. Відзеж, па-ірляндзку «aisling», — слова, ад якога не ўцячы, яно — як дзявочыя йімёны Вера, Надзея, Любоў, Ласка. Другі зборнік ён назваў «Маленькія яблыкі», пэўна, каб заняць месца (бо ў ірляндзкай мове назоўнік стаіць перад прыметнікам) побач зь «Яблыкамі з галінкі» Дугласа Хайла, Прыгожай Галінкі (калі кнігі расстаўляюцца паводле назоваў, а не паводле аўтараў, бо парадак імёнаў аўтараў па-ірляндзку застаецца прадметам спрэчак: улічваць гэтыя Мак, Ні ці О на пачатку або не?) — або, можа, проста дзеля сьціпласьці побач з «The Bridge / An Droighead», двухмоўным часапісам, які выходзіць у Нью-Ёрку ў выдавецтве «*Úll Mór*» — «Вялікі Яблык», (рэдагуе яго ніхто іншы, як Гэбрыэл Роўзэнсток, адна кніга якога выйшла ў выдавецтве «*Ababúna*» — слова, якое ўжываецца як выраз зьдзіўленьня героямі гісторыі з Кіевам і Габэ, безь ніякае сувязі з паэтамі Бу-ба-бу ў Львове).

Мост... Мы выяжджаем на Келбрыдж, дзе злучаюцца дзьве дарогі, каб перасекчы Ліфі і ўліца на тым беразе ў дзелавы праспэкт, месца заўсёдных дарожных коркаў. Можна пабачыць і царкву, праўда, ня побач з мостам, як можна было б выснаваць з назову, а адвеку за полем, пакуль машыны зь іншае паласы пераскокваюць чаргу. Аўтобус кіруецца ў Мэйнут, сядзібу ірляндзкага літаратуразнаўства, дзе Брэндан О Доўлінь, перакладчык «Азарэньні» Рэмбо між працаю над разьдзеламі прарока Ісаі, цяпер працуе над ірляндзкім тэзаўрусам, маючы аднак шмат клопату з кампутарам, які мусіць успрымаць пачатковае «t», «dt» і «th» як мутацыі той самай літары... Значыць, зараз ён рэзка паверне налева ў канцы праспэкту, дзе дарога абмінае колам Каслтаўнскі маёнтак, праспэкт ідзе проста на сам вялікі дом, і за агароджаю справа, за пратэстанцкай («экумэнічнай») царквою застанецца ўсяго пару крокаў да Ліфі. Life — жыцьцё — кажа знак: так, «*Life*», будзе па-ірляндзку, сама Анна Лівія Плюрабэлла...

Я спынюся каля кебабні, спушчуся надол і прыслухаюся ў прыбярэжным хмызьняку, коні ў полі на тым беразе. І буду слухаць плынь вады пасьля ўсяго вулічнага гуду. Аднойчы я сустрэла яго ў цягніку. Насупраць. Так, Роўзэнсток. Шэсьць гадоў таму? Усё яшчэ неприхільная да ірляндзкае мовы ад студэнцкіх гадоў. (А дзяцей і дагэтуль адварочвае ад ірляндзкае, якую выкладаюць *як замежную мову*...) Я магла бачыць, што чалавек насупраць мяне чытае кнігу, мову якой я прыняла за шатляндзкую — цягнік ішоў у Глазга, а па-ірляндзку ж *ніхто* не чытае... Сама я чытала Эму Андзіеўскую. І ён сказаў, што дзеля тых «і» ён можа здагадацца, што кніга не па-расейску...

*Мэва Марон*

P.S. Пару імёнаў паэтаў просяцца ў гэтыя нататкі: адзін зь іх — Біды Джэнкінсан зь «Міс каля брамы Трыніты» (па-ірляндзку), другі — Пол Дэркан, «Сьлімак на заранку» — ён піша па-ангельску, але аднойчы пакінуў падручнік ірляндзкае мовы Майлса Дылана нейкаму Арво ў Таліне, прынамсі гэтак ён піша ў адным зь вершаў. Кніга, адкуль я працытавала дэфініцыю слова «*бхаджан*» — «Інакшасьць ангельшчыны: сындром мовы цёткі зь Індыі» Прабала Дасгупты.




Маёр выпіў шклянку адным глытком.

Амаль усе хлопцы цяпер ужо выйшлі з пакою. Апошні (ён зваўся Жан Бердэндэн і быў не з баязьліўцаў) схапіў цяжкую папяльнічку й шпурнуў Маёру ў галаву. Маёр злавіў снарад зь лёту й за два скокі ўжо трымаў Бердэндэна.

— Ты... Ану, идзи сюда, — сказаў ён.

Ён выцягнуў яго на сярэдзіну пакою.

— Так. Вазьмёш адну с эцих баб, какую захочиш, и раздзениш (дзяўчаты пачырванелі ад жаху).

— Я адмаўляюся, — сказаў Бердэндэн.

— Ну, ты, спакойна, — сказаў Маёр.

— Толькі ня гэта, — сказаў Бердэндэн.

Фалюбэр, перапалоханы, машынальна наліў сабе другую шклянку й выпіў залпам.

Маёр нічога не сказаў. Ён падыйшоў да Бердэндэна і ўзяў яго за руку. Пасьля ён рэзка яго крутануў, і Бердэндэн паляцеў у паветра. Маёр, скарыстаўшы гэткае становішча, пакуль той падаў, пасьпеў сьцягнуць зь яго нагавіцы.

— Так. Ты, — сказаў ён, — гатовься.

Ён паглядзеў на дзяўчат.

— Дабраволыцы будут? — спытаўся ён з ухмылкай.

— Досыць, — сказаў Бердэндэн, які, хістаючыся, спрабаваў учапіцца ў Маёра. Гэта не прайшло яму дарма. Маёр падняў яго й кінуў аб дол. Бердэндэн сказаў: «плюх!» і застаўся ляжаць, мацаючы бокі.

— Рыжая, — сказаў Маёр. — Идзи сюда.

— Ня рушце мяне, — сказала Джэніфэр зьбялеўшы.

Фалюбэр дапіваў чацьвертую шклянку, калі пачуў голас Джэніфэр, што ўзьдзеяла на яго як маланка. Ён павольна павярнуўся на абцасах і паглядзеў на яе.

Маёр падыйшоў да яе й рэзкім рухам абарваў плячук яе сіне-чырвонае сукенкі. (Дзеля справядлівасьці мушу сказаць, што гэтак адкрылася вельмі прыемнае відовішча.)

— Ня рушце мяне, — паўтарыла Джэніфэр.

Фалюбэр прыкрыў вочы рукою.

— Я сьню! — прамармытаў ён, цяжка варочаючы языком.



— Идзи сюда, — сказаў яму Маёр. — Будзиш иё дзиржаць пака этат иё абработаит.

— Не! — завыў Бердэндэн. — Я не хачу!.. Толькі ня гэта... Толькі не з жанчынай!

— Харашо, — сказаў Маёр, — я добры Маёр.

Ён павярнуўся да Фалюбэра, не адпускаючы Джэніфэр.

— Раздзивайся, — сказаў ён, — и займись эцим. А я разбирусь с этай.

— Я адмаўляюся, — сказаў Фалюбэр. — І ўвогуле можаш валіць адсюль. Абрыд ужо.

Маёр адпусьціў Джэніфэр. Ён глынуў паболей паветра, ад чаго ягоныя грудзі разьдзьмуліся сама меней на мэтар дваццаць пяць. Джэніфэр зь зьдзіўленьнем глядзела на Фалюбэра й ня ведала, падняць ёй адарваны верх сукенкі, ці было б больш разумным дазволіць Фалюбэру набрацца сілы, сузіраючы павабнае відовішча. Яна выбрала другое.

Фалюбэр паглядзеў на Джэніфэр і заіржаў. Ён застрашальна затупаў на месцы й абрынуўся на Маёра. Той, не пасьпеўшы да канца пашырыць грудзі, атрымаў ўдар пад дых і склаўся напалам з страшным хрыпам. Ён амаль адразу выпрастаўся, і Фалюбэр скарыстаў гэта, каб ужыць абсалютна клясычны прыём дзюдо: нацягнуў вушы супраціўніка яму на вочы й дзьмухнуў яму што было сілы ў дзіркі ад носа.

Маёр сьсінеў і задыхаўся. У гэты момант Фалюбэр, якому каханьне й апэрытыў шматкрот памножылі сілу, прасунуў галаву паміж Маёравых ног, падняў яго й зрынуў на вуліцу праз вакно гасьцёўні, перакінуўшы праз багата накрыты стол.

У Леабілевай гасьцёўні, дзе зноў запанаваў спакой, стаяла ціша, і Джэніфэр, не папраўляючы сукенкі, упала ў абдымкі Фалюбэру, заваліўшы яго, бо важыла каля шасьцідзесяці кілаграмаў. На шчасьце за ім стаяў фатэль з бурдзюковае скуры.

Што да Маёра, дык яго цела завіравала ў паветры, але дзякуючы некальскім спрытным круткам яму ўдалося вярнуць раўнавагу; аднак, на няшчасьце, ён упаў у чырвона-чорную таксоўку з адкрытым верхам, якая павезла яго далёка стуль, перш чым ён пасьпеў зразумець, што да чаго.

Калі ж ён зразумеў, ён выгнаў з машыны таксіста, пагразіўшы яму найстрашнейшым ліхам, і скіраваў таксоўку да свайго дома, маёнтку Львінае Сэрца.

Пасьля, на вуліцы, ня хочучы прызнаваць сябе пераможаным, ён пераехаў насьмерць старога вулічнага гандляра, усё адно махляра.

Тым часам увесь астатні вечар Фалюбэр і Джэніфэр займаліся зашываньнем сукенкі. Яна яе зьняла, каб было зручней, і ўдзячны Леабіль саступіў ім дзеля нагоды свой пакой і пазычыў электрычны прас з кітайскай інкрустацыяй, які ён атрымаў у спадчыну ад маці, а тая — ад бабулі, і гэтак ён перадаваўся ў гэтай сям'і з пакаленьня ў пакаленьне ад часоў Першага Крыжовага, Паходу.

Пераклаў з французскае SS



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ХОДЗІЦЬ ПА ВУЛІЦЫ

*Працяг са старонкі 9*

яны захопленыя чытаньнем — вось зь імі я люблю паразмаўляць. Гэта можа быць і сьлесар, які мог бы ў спрэчцы перамагчы любога інтэлектуала. Паспрабуйце знайсьці ў кнігарнях добрую кнігу. Яны бываюць, але не ляжаць. Затое дрэнных — колькі хочаш. І на спэктаклі людзі ходзяць. Пастаўце добры спэктакль — і ўбачыце, які будзе ажыятаж.

***«LR»: Які ўзрост Вы лічыце для актора сталым?***

Мяркую, што ад 40 да 50 гадоў.

***«LR»: Вы не баіцёся, што Будрайцю-актора могуць забыць?***

Не. Мяне ўжо забылі. Я ж нічога не раблю.

***«LR»: Але на вуліцы пазнаюць?***

Ну дык што? Пазнаюць зьнешнасьць, а ня творцу. Магчыма, гэта самае страшнае для актора: ён ня можа пра сябе нагадаць. Мяне ведаюць паводле кіно. Але ёсьць акторы, якія працуюць толькі ў тэатры. Іх ніхто ня ведае. Актыўна пра сябе можна нагадаць толькі на сцэне. Пра пісьменьнікаў памятаюць нават калі яны нічога ня пішуць. Актор жа нагадвае пра сябе толькі сваім здароўем, целам, душою — у дадзены момант, у дадзеным месцы. Калі прасторы для яго няма — сумна. Таму актор — самая трагічная прафэсія ў сьвеце мастацтва. Актор — твор мастацтва, аднак сам ён ніколі ня можа сябе бачыць. Для гісторыі амаль нічога не застаецца. Успаміны сучасьнікаў бываюць скажоныя.

***«LR»: Вам прапануюць ролі?***

Прапануюць, але немагчыма спалучаць ролі з працаю тут. Не магу сказаць, што я прагну граць, ніколі да гэтага не імкнуўся. Іншая справа, калі ў працэсе граньня знаходжу нешта, нюанс, які мне здаецца вельмі важным. Але гэта іншае, ня тое, што граць.

***«LR»: Ці лічылі Вы свае фільмы?***

Спачатку так, потым згубіў лік. Калі іх набралося каля 60.

***«LR»: Ці ня хочацца паглядзець фільмы маладосьці?***

Не. Шмат чаго ня памятаю, дый ня трэба. Для мяне гэта неістотна. Казалі, я ў кіно паўтараюся, ролі аднолькавыя. А як не паўтарацца? Не падабаецца — можна не глядзець. Ня будуць глядзець — мяне ня стануць купляць. Калі запрашаюць, значыць падыходжу.

***«LR»: Ці праўда, што акторства — гэта падман?***

Я не скончаў тэатральную школу, таму не магу камэнтаваць.

***«LR»: Вас часта ў гэтым папракалі?***

Не. Ніхто не папракаў. Але злыя пагалоскі былі. Няўжо ж зьвяртаць на іх увагу?

***«LR»: І Вы ніколі не шкадавалі пра гэта?***

Не. Калі б сапраўды хацеў граць, мог бы скончыць гэтую школу. Напэўна, прынялі б. Туды шмат каго прымаюць.

***«LR»: Як ні дзіўна, славе зайздросьцяць больш, чым грашам. Але ня думаецца, што лягчэй жыць, калі пазнаюць на вуліцы.***

— Сапраўды, ад гэтага толькі цяжэй. Магчыма, толькі ў апошнія гады я супакоіўся. Уяўляеце сабе: выходзіш на вуліцу і адчуваеш — за табой назіраюць. Напружваесься, хада робіцца ненатуральнай. Але калі падумаць, дык сам вінаваты: навошта выбраў такую прафэсію?

***«LR»: А ўсё ж, сцэнар, які б усхваляваў — які ён мусіць быць?***

Што мяне прыцягвае? Магчымасьць фармаваць карціну. Сытуацыі, дзе я пачуваў бы сябе вольна. Упершыню зьняўшыся ў фільме В.Жалакевіча (Žalakevičius) «Ніхто не хацеў паміраць», я вельмі доўга чакаў, што зноў прынясе мне задавальненьне..



***«НН»: Гэта праўда, што для шчасьця можа быць дастаткова кубка кавы?***

У іншы дзень гэта можа быць гарбата ці шклянка малака. Я не пра тое кажу. Я кажу, што гэты адрэзак часу — настрой на нейкі занятак, які цябе захапляе цалкам — гэта й ёсьць шчасьце. Калі супадаюць некалькі элемэнтаў, якія дазваляюць адчуць нешта такое, што падымае чалавека над бытам. Я не сказаў бы, што цяпер такія моманты бываюць радзей, чым калісь. Наадварот. Ёсьць з чаго рабіць нейкія параўнаўчыя высновы — усё ж пражыў болей і досьвед дазваляе рабіць аналіз. Шчасьце... Бывае, што й прамень сонца падае неяк дзіўна на прадметы, што вызваляе нейкія падсьвядомыя рэакцыі, эмоцыі. І гэтага дастаткова чалавеку.

# ЭЎРАПЭЙЦЫ

*Працяг са старонкі 12*

ханікаў, уладальнікаў рэстаранаў і афіцыянтаў у гэтай краіне» (Хіл).

«Фіны»: «Нашы чатырохногія сябры» (расейцы пра фінскія турыстычна-алькагольныя экскурсіі).

Такі *collage* можна было б доўжыць і далей, аднак вернемся да больш сыстэматычнага агляду. Падразьдзел пра немцаў Хіл пачынае цытатаю зь Ніцшэ: «Немцы заўсёды ўсё ўскладняюць — сабе й іншым», якую можна лічыць даволі неприхільнай характарыстыкай славутага нямецкага пэрфэкцыянізму цito *Gründlichkeit*. На думку нашага аўтара, гэта адна з праяваў прынцыповае няпэўнасьці, якая ляжыць у падмурку як нахабства, гэтак і пэўнага нямецкага рабалепства, залежна ад акалічнасьцяў. Як хтосьці гэта акрэсьліў: «Уся праблема зь імі палягае ў тым, што яны або хапаюць за горла, або падаюць у ногі». У менш драматычных тэрмінах гэта азначае тое, што кантакты зь імі звычайна вылучаюцца большай інтэнсыўнасьцю (нэрвовай і эмацыйнай), чым напрыклад з ангельцамі.

Згодна з сваёй тэндэнцыяй тлумачыць групавыя рысы гістарычнымі акалічнасьцямі, Хіл паклікаецца ў гэтым месцы на нямецкага сацыёляга Фэрнаў і падае ягонае меркаваньне на гэты конт. «Нямецкая індывідуальнасьць аформілася каля 1400 г. Гэты цесны сусьвецік малых гарадоў, што ня маюць аўтарытэту дзяржавы, які ўсё ўспрымае дaслоўна, вытварыў тып чалавечка, які шукае задавальненьня свайго *ego* ў трывіяльных справах, аматара тытулаў, які кіпіць у душы, калі не зьвярнуцца да яго *Herr Doktor*, ганебнага «маўклівага запярэчніка», які здолее праглынуць усё толькі таму, што аж да 1400 году за ім не стаяў аўтарытэт дзяржавы». Пачуцьцё ізаляцыі, крохкасьці, няпэўнасьці прыводзіць у сваю чаргу да празьмернага ўзмацненьня з дапамогаю іншых — або на практыцы да празьмернага канфармізму й нацыянальнае клянавасьці (*«wir sind ja unter uns...»* — прычым гэтае *wir* прынцыпова выключае ўсіх нянемцаў). Гэтае здаўна ўспадкаванае пачуцьцё няпэўнасьці складае, на думку Хіла, прычыну таго, што немцы сёньня — самы кансэрватыўны й асьцярожны народ у Эўропе.

Пярэйдзем нарэшце да «славянаў» у шырокім разуменьні Хіла. Натуральна ж, ён пачынае ад расейцаў, прыпісваючы ім дзьве прынцыповыя рысы: пасыўнасьць, пацьверджаную дзесяцігодзьдзямі маўклівага цярпеньня пасьля рэвалюцыі, а таксама адвагу — прадэманстраваную ў часе II сусьветнай вайны. Адразу за імі йдуць палякі, развагі пра якіх я падам тут амаль *in extenso*: «[Яны маюць] шмат расейскіх рысаў — улучна з гераізмам (праўда, больш тэатральнага характару) — аднак яны не пасыўныя». Маюць яны таксама — асабліва сярод старэйшага пакаленьня — «перабольшаныя прэтэнзіі да шляхецкага паходжаньня, сапраўдныя або ўяўныя, а таксама вялікае замілаваньне да фантазійнай формы рамантызму. У лепшым выпадку гэты рамантычны прыдатак можна інтэрпрэтаваць як праяву рыцарства і, кажучы словамі Конрада, «залішнюю павагу да індывідуальных правоў» — якая ў мінулым, на жаль, не пашыралася на жыдоўскае грамадзтва. У выпадку канфлікту або іншых сытуацыяў, якія выступаюць як выклік іх прыроднаму спрыту, палякі ня маюць канкурэнцыі. Калі ж аднак справа йдзе аб нармальнай цяжкай працы, дык на думку немцаў і некаторых іншых народаў, гэта ня тая галіна, дзе яны гэткія ж добрыя (з гэтым пагаджаюцца й польскія працадаўцы, якія сёньня карыстаюцца адносна высокай працоўнай этыкай прыбылых расейцаў, літоўцаў і беларусаў). Здаецца, пануе *consensus*, што палякі любяць лайдацтва, якое кампэнсуюць інтэлігентнасьцю».

Цікава, што рысы, традыцыйна зьвязаныя з палякамі, Хіл зьвязвае хутчэй з чэхамі; ён сьцьвярджае, што яны асабліва добрыя ў галіне чорнага гумару — вэрбальнага й малюнкавага — а таксама, што яны «славяцца талентам нараканьня».

Астатніх «славянаў» прыпомню тут толькі ўрыўкава. Балты, кажа Хіл, самі сябе лічаць «сэнтымэнтальнымі, з жарсьцю да кветак»; паасобныя адрозьненьні выглядаюць так: «Латвія вырабляе найлепшых палітыкаў, Эстонія — эканамістаў, а Літва — прарокаў». Баўгары — спраўнейшыя за сваіх суседзяў у гэтай частцы кантынэнту: працавітыя й прадпрымальныя. Вугорцы — незвычайна пачуцьцёвыя й сэнтымэнтальна-настальгічныя. «У сэнтымэнтальнасьці яны перавышаюць нават навакольных славянаў, у тым ліку й палякаў. Адваротны бок гэтага — прыродная хітрасьць, прынамсі так думаюць аўстрыйцы, якія цьвердзяць, што калі некаму давядзецца ўвайсьці ў турнікет перад вугорцам, дык той усё адно выйдзе першы. Аднак, здаецца, тут проста справа ў інтэлекце (яны выдалі сьвету мноства таленавітых людзей: Дэніс Габар — лэйзар, Рубік — кубік, і г.д.).

Як вынікае з гэтага вельмі агульнага агляду, кніга Хіла мае ўсе перавагі і ўсе хібы «гуртовых» апісаньняў такога роду. Галоўны плюс — форма *pot-pourri* забаўных фармулёвак, цытатаў і назіраньняў; галоўны мінус — няпоўнасьць і (часта) павярхоўнасьць гэтых абагульненьняў; прыкладам можа быць спасылка Хіла на «баі польскае кавалерыі з танкамі» ў 1939 г. Можна падазраваць, што пры апісаньні іншых нацыяў клішэ такога роду[1] таксама не бракуе. Тым ня менш кніга годная ўвагі як крыніца інфармацыі ня столькі, можа, пра самі апісаныя ў ёй народы, колькі пра сярэдняе, а значыць пераважнае ўяўленьне, якое пра іх сёньня ходзіць па Эўропе.

М.Бронскі

*«Kultura», 10'1993 (Парыж)*

*Віленская беларуская гімназія выказвае шчырую падзяку фундатарам зь Вялікабрытаніі і Злучаных Штатаў Амэрыкі, якія ахвяравалі:*

*сп. Аляксандар Лашук — $ 300*
*сп. Ірына Каляда-Сьмірноф — $ 50*
*сп. Мікола Грэбень — $ 50*
*сп. Сяргей Карніловіч — $ 50*

*на адраджэньне Беларускай гімназіі ў Вільні.*

Шаноўны рэдактар.

Прашу выказаць праз Вашу газэту шчырую падзяку ўсім, хто ў цяжкую для мяне хвіліну сьмерці бацькі аказаўся неабыякавы да майго болю і смутку.

Валянцін Стэх

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

***А.К. зь Берасьця.*** Калі Жабінкаўскі райвыканкам адабраў у Вас 13 га Вашай зямлі, а абласны гаспадарчы суд прызнаў гэтае рашэньне незаконным, дык паводле таго ладу, які ўсё яшчэ йснуе на Беларусі, рацыю меў якраз ня суд. Бо права прыватнае ўласнасьці пры сацыялізме можа быць гарантаванае толькі высокай службовай пасадай. Каб у Вас не было клопатаў з уласнай зямлёй, у Вас ёсьць толькі адно выйсьце — стаць старшынёй Жабінкаўскага райвыканкаму.

***С.С. зь Менску.*** Стасаваньне хрысьціянскіх прынцыпаў да барацьбы з расейска-савецкімі шавіністамі — гэта, вядома, праблема. Адзін такі прынцып: ня кідайце пэрлаў перад сьвіньнямі. Другі: сьвятло і ў цемры сьвеціць і цемра не абняла яго. Але найперш сьвятло павінна сьвяціць.

***В.А. з Магілёву.*** Вы калі не пра сусьвет, дык пра коскі-рыскі. Спадар В.Сёмуха ўжо сьмяецца з нас, што адказваем Вам у кожным нумары. Няхай гэты адказ будзе апошнім, тым больш, што ён паўтараецца — пішыце пра свае.




НАША НІВА. Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Рэдакцыйная Рада: Уладзімер Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Ігар Бабкоў, Адам Глёбус, Алег Дзярновіч (прадстаўнік Рэдакцыі ў Менску), Сяргей Дубавец (рэдактар), Лявон Луцкевіч, Алег Мінкін, Генадзь Сагановіч, Сяргей Харэўскі (мастацкі рэдактар), Алесь Чобат, Сяргей Шупа. Заснавальнік і выдавец Павал Жук. Адрасы Рэдакцыі: 2041 Вільня а/с 2082 і 220123 Менск а/с 71. Афсэтны друк. Фармат А3. Агульны наклад 20 тыс. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (220041 Менск, праспэкт Ф.Скарыны, 79) Замова 1570/01

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010